


# Наша слова




РЭФЕРЭНДУМНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ Стар.2.

АРЫШТ ЛЁСІКА: НОВЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЦІ... Стар.4.

Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 46 (310) 14 — 20 лістапада 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ



**У нашай краіне з 9 лістапада адкрыты выбарчыя ўчасткі** для галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме па пытаннях, ініцыяваных Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Пакуль што народ туды не спяшаецца. Думае да 24 лістапада?

***Услед за Белдзяржуніверсітэтам*** *Менскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, які калісьці быў утвораны на яго базе, таксама адзначыў сваё 75-годдзе. У святочны дзень калектыў медінстытута атрымаў нямала віншаванняў і пажаданняў ад кіраўнікоў нашай дзяржавы, а таксама ад былых сваіх выпускнікоў.*

**Старшыня Вярхоўнага Савета РБ Сямён Шарэцкі сустрэўся з актывістамі Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій**, якіх прывяла ў парламент занепакоенасць матэрыяльным становішчам гэтай катэгорыі грамадзян. Сямён Шарэцкі паабяцаў уважліва вывучыць перададзеныя яму дакументы і прапановы. Але вывучыць дакументы — гэта яшчэ не вырашыць праблемы. Дзе браць грошы, калі прадпрыемствы ці "запушчаныя", ці выпускаюць неканкурэнтназдольную прадукцыю?

***З 1 лістапада Міністэрствам аховы здароўя зніжаны цэны на лякарствы.*** *Міністр аховы здароўя палічыла, што гэты канкрэтны крок не носіць палітычнага характару, а з'яўляецца першым станоўчым вынікам рэформы аховы здароўя, які праводзіцца ў нашай краіне. І далей бы так!*

**У Лейпцыгу адкрылася беларуска-нямецкае кааперацыйнае бюро**, мэта якога — развіццё гандлёва-эканамічных двухбаковых сувязяў.

***Зацверджаны стаўкі і парадак атрымання аплаты*** *з уладальнікаў машын за праезд па аўтамабільнай дарозе Брэст — Менск — граніца Расійскай Федэрацыі. Што ж, надышоў такі час і для нас, калі плаціць трэба за ўсё.*

**У Гомелі пачата падрыхтоўка спецыялістаў-эколагаў для розных галін вытворчасці** — прыродаахоўных, геалагічных, праектных арганізацый, навукова-даследчых інстытутаў, сістэмы адукацыі.

***Паказчык забяспечанасці мясцовымі рэсурсамі нафты ў Беларусі складае прыкладна 10 працэнтаў ад неабходнага.*** *Не так ужо і мала, бо ў іншых краінах нафты зусім няма, але там людзі жывуць не горай за нас, а то і ў шмат разоў лепей.*

**Летувіскі ўрад разглядае магчымасць** павелічэння ў IV квартале бягучага года і I квартале наступнага экспарту ў нашу краіну электраэнергіі да 500 мільёнаў кВт/г у месяц. А ў нас часам можна пачуць, што прыбалты нічога не маюць свайго на продаж. Прычым іхнія кілаваты дзешавейшыя, чымся расійскія.

### Загінуў Анатоль Майсеня

У аўтамабільнай катастрофе трагічна загінуў прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятываў "Усход—Захад", вядомы палітолаг і журналіст Анатоль Майсеня. Калектыў рэдакцыі газеты "Наша слова" выказвае глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.

## Беларускі Канстытуцыйны суд адстаяў гонар Беларускай прававой дзяржавы. Што далей?

На мінулым тыдні Канстытуцыйны суд прыняў бадай самае цяжкое рашэнне ў сваёй гісторыі. Прэзідэнцкі і парламенцкі праекты дапаўненняў у Асноўны закон прызнаны "фактычна новымі праектамі Канстытуцыі" і таму могуць быць вынесеныя толькі на кансультатыўны рэферэндум. Абавязковы плебісцыт павінен прайсці толькі па пытаннях пераносу Дня незалежнасці і выбараў кіраўнікоў адміністрацыі насельніцтвам.

Вярхоўны Савет, які павінен быў пацвердзіць рашэнне Канстытуцыйнага суда, зацвердзіў абавязковасць гэтых двух пытанняў.

А.Лукашэнка сваім указам даў зразумець, што ўсе пытанні будуць насіць абавязковы характар, а рашэнне Канстытуцыйнага суда, на думку Прэзідэнта, "груба парушае Канстытуцыю краіны". Падкантрольныя прэзідэнцкай адміністрацыі сродкі масавай інфармацыі пачалі ўзмоцнена мусіраваць тэзіс пра тое, што "народу не даюць зрабіць выбар". Праўда, тэлеагітатары не гавораць, што "гульня практычна вядзецца ў адны вароты", бо нават кіраўніцтва Вярхоўнага Савета пазбаўлена магчымасці данесці сваю пазіцыю да людзей, што з'яўляецца грубым парушэннем Закона аб правядзенні рэферэндуму.

З боку адміністрацыі Прэзідэнта вядзецца націск на членаў КС. 6 лістапада яго старшыня В.Ціхіня паведаміў журналістам, што ў прэзідэнцкіх структурах падрыхтаваны ўказ аб прыпыненні дзейнасці Канстытуцыйнага суда. Ва ўсім свеце гэта завецца дзяржаўным пераваротам, і можна з упэўненасцю сказаць, што ў такім выпадку Беларусь чакаюць санкцыі сусветнага супольніцтва.

Цвёрдую пазіцыю па гэтым пытанні заняла Цэнтральная выбарчая камісія на чале з В.Ганчаром, які заявіў, што будзе выконваць толькі рашэнне КС. Вертыкальшчыкі інстынктыўна адчуваюць, што рэферэндум можа быць прайграны, таму стаўка зараз робіцца на фальсіфікацыю. Пачынаючы з 9 лістапада пярынясць удзел у рэферэндуме могуць грамадзяне, якія 24 лістапада "па розных прычынах" не змогуць прыйсці да выбарчых урнаў. Ёсць інфармацыя, што ў некаторых месцах ужо прагаласавалі цэлымі калгасамі і працоўнымі калектывамі (!) Гэта ў той час, калі выбаршчыкі на ўчастках не мелі паправак да прэзідэнцкага праекта Канстытуцыі. Дык за што галасавалі?

Віктар Ганчар заявіў, што не падпіша выніковага пратаколу і не будзе падводзіць вынікі галасавання, калі і надалей будуць фіксавацца грубыя парушэнні заканадаўства. Вынікі папярэдняга галасавання, якое адбывалася з такімі парушэннямі, не будуць улічвацца. Лукашэнка, адзін раз страціўшы ініцыятыву, эмушаны цяпер толькі адказваць на захады апанентаў. Гэта не яго стыль і не яго стыхія. Прэзідэнт хутчэй за ўсё паспрабуе навязаць свае сілавыя правілы гульні. Пасля магчымага роспуску КС наступнай ахвярай тады можа стаць Вярхоўны Савет, Цэнтрвыбаркам і г.д., а затым... усе мы можам стаць сведкамі таго, як у справу ўступае "таварыш Маўзер". Цяпер усе спадзяванні ўсё ж на абачлівасць беларускіх выбаршчыкаў.

**Язэп СІНІЦКІ.**

*Падрабязнасці*

## З бел-чырвона-белым сцягам праз чатыры раёны, пяць міліцэйскіх пастарункаў і пяць судоў

Як ужо вядома з публікацый дэмакратычнай прэсы, марш пратэсту супраць галечы працоўных на трасе Салігорск — Менск Беларускі незалежны прафсаюз меркаваў правесці з 16 па 19 кастрычніка г.г. Але ў сталіцу актывісты БНП прыйшлі толькі 23-га.

Прычына — даволі нечаканая: міліцыянты Салігорска, затым Слуцка, Узды, Менскага раёна і Кастрычніцкага раёна сталіцы чамусьці гэты марш атаясамілі з вулічным шэсцем, несанкцыянаванай маніфестацыяй, а таму проста з узбочыны дарогі пяць разоў (!) забіралі ў "аўтазакі" ўдзельнікаў маршу, якія патрабавалі ад дзяржавы пристойнай аплаты працы, "чалавечага" пенсійнага забеспячэння ды тэхнічнага абнаўлення гарняцкага абсталявання.

Але на адным з судовых пасяджэнняў, якіх па дарозе было ажно пяць (рэкорд, варты асобнага радка ў кнізе Гінэса!), высокі суд (без ніякай іроніі) спытаўся ў прадстаўнікоў аховы палітычнага правапарадку на шашы Салігорск — Менск: чаму ж яны вырашылі, што па дарозе рушыць недазволеная маніфестацыя? А таму, адказалі прадстаўнікі нашай слаўнай міліцыі, што ўдзельнікі маршу ішлі пад бел-чырвона-белым сцягам (!).

Суды ў Слуцку, Уздзе, а таксама Менскага і Кастрычніцкага раёнаў сталіцы цярпліва тлумачылі афіцэрам аддзелаў унутраных спраў, што бел-чырвона-белы сцяг з літарамі "БНП" на палотнішчы — афіцыйна зарэгістраваны як сімвал Беларускага незалежнага прафсаюза і таму ісці з ім па дарозе, тым больш па яе ўзбочыне, не з'яўляецца парушэннем артыкула 167 Кодэкса аб адміністрацыйных парушэннях.

І хаця, акрамя салігорскага суддзі сп.Іванова, суддзі астатніх населеных пунктаў начыста адрынулі абвінавачванні міліцыянтаў ды прызналі рацыю "маніфестантаў", зухаватыя праваахоўнікі з настойлівасцю, вартай іншага прымянення, зноў і зноў хапалі ў свае "варанкі" актывістаў БНП. Гэтак ненавідзелі гістарычны беларускі сцяг, які ў дадзеным выпадку быў за асноўу сімволікі паважанай прафсаюзнай арганізацыі, якая аб'ядноўвае ў сваіх шэрагах шахцёраў, хімікаў, будаўнікоў, прадстаўнікоў іншых прафесій, што з'яўляюцца беспартыйнымі, сябрамі БНФ, Грамады, АГП, ТБМ імя Ф.Скарыны і да т.п.

Але міліцыянты, выконваючы практычна незаконныя загады начальства, рэагавалі яшчэ на адну акалічнасць — на беларускую мову, якой пераважна карысталіся хадакі. Напрыклад, старшыня БНП — Віктар Бабаед, яго намеснік Мікола Зімін, кіраўнік рэгіянальнай арганізацыі незалежнага прафсаюза на "Беларуськаліі" Мікола Новік, пенсіянер, учарашні горны інжынер Міхась Казак ды іншыя іхнія таварышы.

У гэтым плане асабліва запомніўся такі эпізод.

...16 верасня 1996 г. Каля 17.00. Аўтара гэтых радкоў і Віктара Бабаеда, што ідуць ужо за Слуцкам па Менскай шашы ў складзе галоўнай групы, спыняе нейкі міліцэйскі малодшы афіцэр. Як высвятляецца, добры чалавек. "Хлопцы,— звяртаецца ён да хадакоў,— згарніце свой сцяг і пераходзьце на расійскую гаворку. Іначай вас мае калегі схопяць і завязуць у райаддзел як парушальнікаў артыкула 167! І плакат таксама схавайце..."

Віктар Бабаед падзякаваў чалавеку за інфармацыю, усё зрабіў, як той прасіў: маўляў, адыдземся далей ад Слуцка, тады і сцяг зноў разгорнем, і плакат да грудзей прыладзім. Але ж вось бяда! Хадакі забыліся, што трэба было яшчэ перайсці з беларускай на расійскую мову! І не заўважылі, як вельмі ціхенька аб'ехаў хадакоў у абгон і перагарадзіў шлях "варанок". З яго выйшлі капітан у амапаўскай форме з двума сяржантамі ды й запіхнулі ўсіх у аўтамашыну, у тым ліку журналіста. Растлумачылі: трэба высветліць вашыя асобы. Мне ж наогул быў кінуты папрок: вы тут на дыктафон, магчыма, робіце запісы антыграмадскага (?!) зместу, то хай вашыя стужкі праверыць слуцкі прадстаўнік кампетэнтных органаў.

Вось так прафсаюзнага актывіста і журналіста "падвяла" родная мова. Мяне, праўда, пасля праверкі дакументаў і высвятлення мэты "ацірання" каля "незаконнай групы дэманстрантаў" з пастарунка Слуцкага ГРАУС адпусцілі на волю, а дыктафонную стужку я сваім правяральшчыкам крутнуў па ўласнай ініцыятыве: хай паслухаюць тое, чым зараз жывуць рабочыя людзі, ды пачуюць нязмушанае беларускае слова, якое ў вуснах іхніх землякоў гучыць надзвычай годна ды сакавіта! З лідэрам БНП "разбіраліся" куды даўжэй.

А з бел-чырвона-белым сцягам такія прыгоды былі. 18 кастрычніка днём па дарозе паміж вёскамі Вішнёўка і Сенніца нейкія маладыя мужчыны ў цывільным пад'ехалі на "іншамарцы" да групы хадакоў і з нахабнымі ўсмешачкамі падступіліся да Міколы Зіміна, які нёс прафсаюзны бел-чырвона-белы сцяг, і паспрабавалі яго вырваць. Ды не на таго напалі. Шыракаплечы рабочы не разгубіўся і даў палітычным бандзюгам такі адпор, што тыя ледзьве паспелі схавацца ў легкавушцы ад праведнага гневу сцяганосца...

— Пасля міліцэйскіх пастарункаў, якіх у мяне за апошнія гады і ў Салігорску, і ў Менску было не адзін і не два, я ўжо добра адукаваны. Я абараняю праўду і таму не баюся, родны сцяг буду абараняць з усіе сілы,— сказаў Мікола Зімін. Ён і іголныя сябры па гэтай пакручастай трасе мужнасці ў чатырох судах адстаялі сваё права вольна хадзіць па беларускай зямлі пад беларускім сцягам.

Ну а фініш праз міліцэйскія "бар'еры" стаўся хоць запозненым, але годным. Каля самага Дома ўрада ўпартых вояў за працоўную долю і волю сустрэлі Старшыня ВС Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі і старшыня дэпутацкай фракцыі "Грамадзянскае дзеянне" Станіслаў Багданкевіч. Для стомленых, але нязломленых салігорцаў у прэсцэнтры Вярхоўнага Савета была арганізаваная сустрэча са шматлікімі журналістамі з айчынных і замежных сродкаў масавай інфармацыі.

Віктар Бабаед, Мікола Зімін, Васіль Альхоўскі, іншыя іхнія таварышы, а таксама Станіслаў Багданкевіч далі журналістам вычарпальныя адказы. У тым ліку і пра сцяг ды родную мову.

Перамогай чалавечага духу над сіламі зла назваў парламентарый гэты ў поўным сэнсе слова легендарны пераход салігорскіх працаўнікоў.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**
Салігорск — Слуцк — Менск.

Дзеючыя асобы

# Беларускасць — гэта асабістая годнасць

*Намесніца старшыні Менскай гарадской Рады ТБМ Надзея Сармант нарадзілася на Берасцейшчыне, у вёсцы Ляхаўцы. Там жа скончыла беларускую школу. Прыехаўшы з вёскі ў горад, на экзаменах у медычнае вучылішча яна ўпершыню пачула: "Вы не можете отвечать по-русски?" У вучылішча Надзея ўсё-ж паступіла.*

*Атрымаўшы адукацыю, яна працавала загадчыцай дзіцячага садка ў Менскім раёне. Вясковай дзяўчыне з вялікай (сямёра дзяцей) сям'і гэта давалася лёгка. У 1977 годзе іх сям'я пераехала ў сталіцу. Там Надзея зноў пайшла працаваць з дзецьмі. Гэтай справаю яна — загадчыца аднаго з дзіцячых садкоў Менска — займаецца і сёння.*

— Калі я працавала метадыстам у дзіцячым садку № 110,— сказала яна пад час гутаркі з карэспандэнтам "Нашага слова",— там рабіліся адкрытыя заняткі для работнікаў дашкольных установаў з усяго горада. Нашай працай камісія была задаволена, але я пачула заўвагу — "не владеет чисто русским языком". Адкуль жа я магла чыста ведаць той "язык", калі вырасла ў вёсцы, у якой адзін вечар хадзілі на вячоркі на Украіну, наступным ладзілі іх у сябе, а трэці вечар, каб не мяжа, маглі б пайсці ў Польшчу. "Якую вы чыстую рускую речь ад мяне патрабуеце?" — патлумачыўшы гэта, спытала я тады.

Чаму да нас, тутэйшых, так ставяцца? — над гэтым задумвалася не толькі я. Таму ў сваім садку мы імкнуліся проста як належыць даглядаць дзяцей, а не адмыслова вучыць іх "владеть чисто русским языком".

У 1984 годзе ў Менску адкрыўся новы дзіцячы садок №456, у які я была прызначана загадчыцай і ў якім працую дагэтуль. Выхавацелі стараліся надаць яму адметнае аблічча — для заняткаў з дзецьмі і аздаблення пакояў набываліся прадметы традыцыйнай беларускай культуры, вырабы народных майстроў, рэчы народнага побыту. Гады праз чатыры пасля адкрыцця ў ім ужо склаўся свой калектыў, у якім лічылася нормай гаварыць і праводзіць заняткі з дзецьмі пабеларуску.

Калі стваралася Таварыства беларускай мовы, я таксама мела да гэтага дачыненне і, акрамя таго, працавала ў часовай камісіі Вярхоўнага Савета, якая займалася выпрацоўкай Закона аб мовах.

Памятаю, калі Закон быў прыняты, я прыйшла ў садок, прайшла па групах і размаўляла аб гэтым з бацькамі. Цяпер беларуская мова, падтрыманая Законам, запануе — лічылі многія з іх, і ніхто не быў супраць. А ў 1992 годзе наш садок афіцыйна атрымаў статус беларуската.

Тады нам давялося шмат працаваць — перакладаць расійскія методыкі з іх духам савецкага часу, а ствараць уласныя, новыя, падбіраць беларускія песні і танцы для музычных заняткаў.

**— І бацькі не былі супраць?**

— Гэта цяпер, мяняючы моўны статус школаў на расійскі, іх кіраўніцтва спасылаецца на жаданне бацькоў. Але я памятаю, што калісьці найбольшыя перашкоды нашаму садку ставіла менавіта суседняя школа №168, у якую ішлі дзеці пасля нашага садка. Дырэктар гэтай школы была супраць выкладання па-беларуску. Таму на бацькоўскіх сходах у нашым садку людзі чулі адно, а ў школе — другое і былі змушаныя разважаць, ці сапраўды мае нашая мова нейкія перспектывы? Гэтыя праблемы зніклі пасля прыняцця Закона аб мовах — у школе адразу былі створаныя чатыры беларускія класы, вучнямі якіх сталі нашыя былыя выхаванцы. Затое сёлета набор у беларускія класы там быў спынены.

**— Які кірунак дзейнасці вы абралі цяпер, калі статус мовы зніжаецца?**

— Бацькам, якія хочуць аддаць у садок сваіх дзяцей, я гавару адразу: наш садок — беларускамоўны. Але, насуперак сцвярджэнням людзей, варожых беларушчыне, нічога супраць гэтага бацькі не маюць. Яны ведаюць, што жывуць у беларускай дзяржаве. І, што яшчэ больш істотна, яны ведаюць, што ў нашым садку за ізнімі дзецьмі будуць даглядаць, як дома — а гэта вельмі важна. Таму дзеці ідуць да нас.

Тое, што я раблю на сваёй пасадзе,— не выкананне грамадскіх абавязкаў сябра і аднаго з кіраўнікоў нашай арганізацыі ТБМ, а выказ асабістых пераканання. Беларускім наш садок робіць не мае загады, а ініцыятыва тых, хто ў ім працуе, і пазіцыя бацькоў нашых выхаванцаў. Не так істотна, з'яўляецца чалавек удзельнікам нейкага грамадскага аб'яднання — таго ж ТБМ — ці не. Галоўнае — ягоны асабісты пункт гледжання.

Таму вельмі істотным для нас ёсць не прапаганда мовы, а пацвярджэнне нашых словаў уласным прыкладам. Людзі бачаць, што па-беларуску мы гаворым не толькі з дзецьмі, але і між сабою. І менавіта ў беларускія класы ходзяць трое маіх унукаў-школьнікаў.

**— Нядаўна ТБМ сумесна з ТБШ было прынятае рашэнне распачаць збор подпісаў у абарону беларускамоўнай вышэйшай школы. Але ці захочуць па-беларуску вучыцца студэнты, якія скончаць расійскамоўныя школы, а да таго будуць хадзіць у расійскамоўныя ж дзіцячыя садкі?**

— Беларускія школы захаваліся нават цяпер, а беларуская мова не выключаная з праграмы і расійскамоўных школаў. Гэта — адна з прычынаў, якія падштурхоўваюць людзей аддаваць сваіх дзяцей у беларускія садкі. Так, моўная арыентацыя вызначаецца яшчэ ў дзяцінстве, і беларускія дашкольныя ўстановы трэба захоўваць. Але ж людзі мусяць бачыць перад сваімі дзецьмі перспектыву — не толькі сярэднюю школу, але і ВНУ. Існаванне там беларускіх плыняў — гэта моцны стымул захавання мовы ва ўсёй сферы адукацыі, ад дашкольнай да вышэйшай.

**— Сістэма адукацыі створана і кіруецца дзяржавай. І яе супрацоўнікі мусяць дзейнічаць адпаведна патрабаванням ўладаў нават тады, калі маюць цалкам адметныя перакананні. Якую перспектыву бачыце перад сабою Вы — сябра ТБМ і адначасова — дзяржаўная служачая?**

— Гэта складанае пытанне. Адна асоба ды нават грамадская арганізацыя не ў стане супрацьстаяць уціску дзяржавы. Урадавыя чыноўнікі змушаныя выконваць загады кіраўніцтва. Мая ўнучка ўжо перавялася ў іншую школу, бо дырэкцыя той, у якой яна вучылася раней, зліквідавала беларускі клас. Але кожны чалавек, на якой бы пасадзе ён ні працаваў, мае нейкую асабістую пазіцыю. Важна захаваць яе незалежна ад таго, у якім стане апынемся мы заўтра.

Распытваў У.ПАНАДА.

# Філолагаў ухвалілі, гісторыкі мусяць папрацаваць яшчэ

Дзяржаўная Камісія па падрыхтоўцы новых падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы пад старшынствам намесніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь У.В.Русакевіча актыўна працуе над разглядам рукапісаў, якія будуць рэкамендаваныя да выдання на наступны год. Без дыскусіі былі ўхвалены для выдання вучэбны дапаможнік для студэнтаў ВНУ "Беларусазнаўства", дапаможнік для вучняў 10 класа "Агульная геаграфія". Не было пярэчанняў адносна рукапісу падручніка для студэнтаў ВНУ "Гісторыя беларускай літаратуры XIX — пачатак XX ст.", а таксама "Дыялекталогія беларускай мовы". А вось па гісторыі Беларусі — як яе "падаваць" навучэнцам — узнікалі спрэчкі. Далёка не ўсім яшчэ вучоным мужам, узгадаваным на тэорыі марксізму-ленінізму і "зліцця нацый" у камуністычным духу, хапае аб'ектыўнасці, каб прызнаць урэшце, што беларусы маюць свой адметны гістарычны шлях, што яны — паўнацэнная нацыя.

Л.М.

# У Маладзечне шануюць беларушчыну

29 кастрычніка ў актавай зале Маладзечанскага райвыканкама адбылася вечарына, прысвечаная 65-годдзю з дня нараджэння, 50-годдзю творчай дзейнасці народнага паэта Беларусі Н.Гілевіча і прэзентацыі яго новай кнігі "Любоў прасветлая". Вельмі паспрыялі гэтаму мерапрыемству намеснік старшыні райвыканкама Б.Бароўскі, супрацоўнік гарадскога цэнтра эстэтычнага выхавання М.Казлоўскі, а таксама бібліятэкар раённай бібліятэкі Л.Сысун. Ураджэнка Расіі, яна самастойна вывучыла беларускую мову і нават пачала пісаць на ёй вершы, адзін з якіх, прысвечаны Нілу Гілевічу, яна прачытала перад удзельнікамі вечарыны.

Шмат у зале гучала не толькі віншавальных слоў ад сяброў і прыхільнікаў творчасці паэта, але і імправізаваных, самадзейных выступленняў прадстаўнікоў розных пакаленняў, пачынаючы ад навучэнцаў музычнага вучылішча і сярэдніх школ і канчаючы жаночым фальклорным квартэтам з вёскі Мазалі. Добрым быў і выступ самадзейных маладых артыстаў драматычнага народнага тэатра "Адлюстраванне", цёпла быў сустрэты верш, прачытаны юнай паэткай, сямікласніцай Аляхновіцкай сярэдняй школы Алесяй Кушнярэвіч.

Напрыканцы вечарыны выступіў сам вінbackspaceоўнік урачыстасці. Ён падзяліўся сваім роздумам аб цяперашняй сітуацыі ў краіне, у якой, па яго словах, цяпер пануе няпраўда, хлусня, невуцтва. Нават яму, загартаванаму ў барацьбе за беларушчыну, часам прыходзіцца падаць у роспач. А як не падаць, калі на так званым "Усебеларускім народным сходзе" з 27 дакладчыкаў толькі адзін, ды і то з Казахстана (!), выступіў на беларускай мове. Ці можна ўявіць сабе такое ў другой краіне свету? Як жа не падаць у роспач, калі Дзень незалежнасці шляхам рэферэндуму спрабуюць не толькі бязглузда перанесці на дзень вызвалення ад фашыстаў г.Менска. Ды і назваць "Днём рэспублікі", выкінуўшы слова "незалежнасць", а разам з ім і яго змест. Агідна, што пад усе гэтыя брудныя, крывадушныя маніпуляцыі некаторыя ўвішныя дактары навук і прафесары падводзяць нават нейкую прававую базу. Аднак, як сказаў Ніл Гілевіч, наш народ прайшоў праз большыя пакуты і не трэба адчайвацца. Трэба верыць, хоць гэта цяжка і вельмі цяжка, у добрае і светлае, бо жыццё — мудрая рэч, здольнае з цягам часу ўсё адрэгуляваць. Можна замуціць рэчку, але пройдзеш кіламетр-другі і гэты мут сыдзе. Так і жыццё здольнае на самаачышчэнне. На заканчэнне Ніл Гілевіч прачытаў мноства новых вершаў і адказаў на пытанні прысутных у зале.

А назаўтра ў канферэнц-зале цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя М.Багдановіча пры непасрэдным садзеянні цэнтра эстэтычнага выхавання і загадчыцы гарадскога аддзела культуры Надзеі Сідарэнка адбылася яшчэ адна вечарына пад сімвалічнай назвай "Усё застанецца людзям", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння вучонага, заснавальніка беларускага мастацтвазнаўства Міколы Шчакаціхіна, якая прайшла ў цёплай і шчырай атмасферы. Перад аўдыторыяй залы быў пададзены цярністы і трагічны жыццяпіс М.Шчакаціхіна, які прайшоў праз сталінскую турму і ссылку і заўчасна памёр у 1940 г. на башкірскай зямлі. Сваімі ўражаннямі дзяліліся першы даследнік творчасці Міколы Мікалаевіча вядомы мастацтвазнаўца Арсень Ліс, навуковы супрацоўнік нацыянальнага музея Ірына Чэбан, дачка Алена Мікалаеўна, якая жыве ў Маладзечне. Пад час вечарыны чыталіся санеты, напісаныя Шчакаціхіным у гонар сваёй жонкі Ганны Мацвееўны ў халодных падвалах Белебейскай турмы, шмат было музыкі, гучалі песні ў выкананні навучэнцаў і выкладчыкаў музычнага вучылішча, а таксама хору ветэранаў вайны і працы. У зале прысутнічала вельмі шмат маладых людзей — асноўнай апоры і надзеі на адраджэнне маці-Беларусі.

Алесь ЦАДКО.

Тлумачальны палітычны слоўнік

# Рэферэндумная дэмакратыя

*Апошнім часам слова "рэферэндум" — адно з найбольш ужывальных на Беларусі. На кожным кроку сустракаюцца плакаты кшталту "Нам нужен референдум, чтобы...", штодня з газетных палос, з радыё і тэлепрыёмнікаў у нас убіваецца "рэферэндум, рэферэндум, рэферэндум".*

*У выніку такога масавага замбіравання ў простага чалавека ствараецца ўражанне, што як толькі пройдзе рэферэндум, дык і зажывём шчасліва. Між тым на Беларусі гэта ўжо трэцяя рэферэндумная кампанія з 1992 года, аднак ні адна з папярэдніх карысці нашаму грамадству не прынесла. Разумнаму чалавеку відавочна, што і сёлетняя кампанія прывядзе да трагічных наступстваў, якія будзе вельмі цяжка ці нават немагчыма выправіць, калі ініцыятар рэферэндуму пераможа.*

*Здавалася б, гэта ж выдатна, што кіраўнік дзяржавы хоча "параіцца" з народам і потым выканае волю народа. Чаму тады супраць гэтага аб'ядналіся практычна ўсе палітычныя партыі, супраць гэтага выступае інтэлектуальная эліта, міжнародная грамадскасць?*

*Каб адказаць на гэтае пытанне, неабходна прааналізаваць як сусветны, так і айчынны вопыт прымянення інстытута рэферэндуму.*

## 1. "За" і "Супраць"

Рэферэндум (ад лац. referendum — тое, што павінна быць паведамлена) — гэта палітычны механізм непасрэднай дэмакратыі, калі рашэнні па важнейшых пытаннях прымаюцца ўсенародным галасаваннем.

Прымяненне гэтага механізма ў розных дзяржавах прывяло да неадназначнай ацэнкі яго эфектыўнасці і, адпаведна, неабходнасці. Найбольш трагічным і паказальным быў вопыт гітлераўскай Германіі: з 1933 па 1939 года Гітлер правёў 5 рэферэндумаў, на ўсіх атрымаў падтрымку свайго народа і ў1939 годзе распачаў Другую сусветную вайну. У Швецыі з 1800 года было праведзена больш за 300 рэферэндумаў. Заканадаўства Бельгіі і Нідэрландаў увогуле не прадугледжвае рэферэндум. Практычна ва ўсіх краінах, дзе Канстытуцыяй прадугледжана правядзенне рэферэндумаў, працэдура жорстка рэгламентавана і ўтрымлівае значныя абмежаванні.

Прычына розных падыходаў краін заходняй дэмакратыі да інстытута рэферэндуму ў тым, што існуе два супрацьлеглыя пункты гледжання на суадносіны непасрэднай (рэферэндумнай) і прадстаўнічай (парламенцкай) дэмакратыі, і той ці іншы перамагае ў залежнасці ад гістарычнага вопыту краіны.

Прыхільнікі рэферэндумаў сыходзяць з таго, што дэмакратыя знаходзіцца ў пастаянным развіцці і патрабуе перагляду існуючага механізма народаўладдзя і самакіравання. Калектыўнай воляй народа, на іх думку, нельга ахвяраваць дзеля прадстаўнічай структуры канстытуцыйнай сістэмы. Такім чынам, рэферэндум уяўляе сабой своеасаблівы вотум даверу народу, прызнанне за ім права непасрэднага ўдзелу у распрацоўцы і прыняцці законаў, якія закранаюць яго жыццёвыя інтарэсы.

Найбольш істотнымі станоўчымі момантамі рэферэндумнай дэмакратыі лічацца:

— рост зацікаўленасці грамадзян у справах кіравання дзяржавай, імкненне да палітычнай самаадукацыі, якое спрыяе пераадоленню палітычнай індэферэнтнасці;

— павышэнне ўзроўню грамадзянскай адказнасці выбаршчыкаў і выбраных афіцыйных асобаў;

— абмежаванне ўплыву, якое аказваецца на заканадаўцаў спецыяльнымі групамі інтарэсаў (лабізм);

— павышэнне ўзроўню легітымнасці рашэнняў, якія прымаюцца.

Асоба адзначаецца, што рэферэндум дазваляе прыняць рашэнне ў сітуацыі, калі любое рашэнне лепш за яго адсутнасць, калі верагоднасць выпрацоўкі кампрамісу, які задаволіць усіх, малая ці яе не існуе ўвогуле.

Працаўнікі рэферэндумнай дэмакратыі найперш адзначаюць, што свабода парламенцкай дзейнасці будзе абмежаваная, калі дэпутатам будзе дыктавацца воля большасці насельніцтва. Справа ў тым, **што панцці грамадскага меркавання і грамадскага інтарэсу прынцыпова не тоесныя.** Напрыклад, на пытанне "ці падтрымліваеце вы продаж гарэлкі па сабекошту?" большасць выбаршчыкаў адказала б "так", аднак рэалізацыя такога рашэння прывяло б да калапсу эканомікі, што зусім не адпавядае грамадскаму інтарэсу. Такім чынам, паміж народам і ягонымі лідэрамі заўсёды павінна быць дыстанцыя, якая забяспечвае кампетэнтнае кіраванне дзяржавай. Заканадаўцы павінны быць ў значнай ступені незалежнымі ад грамадскага меркавання і нават паступаць насуперак яму, калі гэта неабходна ў грамадскіх інтарэсах.

Рэферэндум нясе небяспеку рэзкага змянення курсу дзяржавы пры спробе дагадзіць папуліцкім патрабаванням. Народ, прымаючы рашэнне ў выбарчых кабінах, не нясе адказнасці за наступствы і адначасова здымае адказнасць з уладаў. Наадварот, адмова ад правядзення рэферэндуму робіць урад сапраўды адказным за свае рашэнні і свае дзеянні і забяспечвае службовым асобам магчымасць ажыццяўляць перадвыбарныя абяцанні.

Пры рэферэндуме заўсёды абмяжоўваюцца правы і падаўляецца воля меншасці, што з'яўляецца істотнай перашкодай прагрэсу. Сапраўды, новыя ідэі не ўзнікаюць адразу ў галовах большасці, часцей за ўсё яны нараджаюцца як ерась, зацікаўленая ў прагрэсе дзяржава павінна даць ім магчымасць канкурыраваць за ўплыў на грамадскую свядомасць.

Рэферэндум з'яўляецца магутнай зброяй у руках пэўных палітычных сіл. Ён не дае магчымасці для кампрамісу, вымушае выбаршчыкаў выбіраць адно з двух альтэрнатыўных рашэнняў, што вядзе да расколу ў грамадстве, нарастанню напружанасці. Гэта толькі здаецца, што рашэнне прымае народ. Удала сфармуляванае пытанне дазваляе ініцыятару згуляць на папулізме і рэзка падняць свой рэйтынг, адначасна расправіўшыся са сваімі апанентамі. Ініцыятар-кіраўнік дзяржавы з дапамогай рэферэндуму можа знішчаць апазіцыю.

Добра фінансуемыя, маючыя ў сваім распараджэнні дзяржаўны апарат, трымаючы пад кантролем сродкі масавай інфармацыі, ініцыятары могуць выкарыстоўваць рэферэндум для дасягнення сваіх спецыфічных мэтаў, якія не маюць нічога агульнага з агульнадзяржаўнымі ці агульнанароднымі інтарэсамі.

Недастатковая інфармаванасць, а таксама адсутнасць спецыяльных ведаў, перавага эмацыянальнага над рацыянальным не даюць магчымасці выбаршчыкам прымаць кампетэнтнае рашэнне.

Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ,
Вера ЧУЙКО.

*(Працяг будзе.)*

*З рэдакцыйнай пошты*

## Паэт пачынаецца са Здзіўлення...

У Гомельскай абласной бібліятэцы адбылася сустрэча з чытачамі вядомай беларускай паэткі Ніны Загорскай. Большыню прысутных склалі студэнты першага курса філалагічнага факультэта ГДУ імя Ф.Скарыны. Натуральна, што размова пайшла не толькі пра вершы, хаця ім была аддадзена асноўная ўвага, але і ўвогуле пра беларускасць у цяперашніх умовах. Цікава было пачуць меркаванні майстра роднага слова аб тым, як ствараюцца вершы. Своеасаблівым урокам дабрыні і душэўнай шчодрасці ўспрынялі слухачы радкі вершаў, агучаных самой аўтаркай:

*Паэт пачынаецца са Здзіўлення.*
*Паэт пачынаецца з Дабрыні.*
*З духоўнага акрылення.*
*З Любові, з Трывог, з Аднаўлення.*
*У Праўдзе — яго карані...*

**Святлана КАЧАН, студэнтка І курса філфака Гомельскага дзяржуніверсітэта.**

## Навуковы радавод

29 кастрычніка на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта адбыліся навуковыя чытанні, прысвечаныя 90-годдзю з дня нараджэння руплівіцы беларускага мовазнаўства, доктара навук, прафесара, заслужанага дзеяча навукі Беларусі Марыі Андрэеўны Жыдовіч (1906-1977). Намаганнямі гэтай даследніцы, настаўнікамі якой былі І.І.Замоцін, Ц.П.Ломцеў, М.М.Піятуховіч, распачалося шырокае навуковае вывучэнне гісторыі беларускай мовы, набылі маштабнасць і ўпарадкаванасць дыялекталагічныя доследы. Марыя Андрэеўна ўзгадавала 24 кандыдаты навук. Сярод іх — цяперашнія дактары навук Л.Шакун, А.Наркевіч, а таксама Э.Блінава, Н.І.Гілевіч, У.М.Лазоўскі, М.З.Міхей, І.М.Шчарбакова ды інш.

Сваю выкладчыцкую дзейнасць М.А.Жыдовіч пачала з даваеннага часу менавіта ў Белдзяржуніверсітэце (які ў лістападзе адзначыў 75-гадовы юбілей), усё наступнае жыццё звязала з ім, працавала і тады, як загадвала сектарам гісторыі беларускай мовы ў Інстытуце мовазнаўства АН Беларусі.

У чытаннях бралі ўдзел былыя студэнты, аспіранты, калегі таленавітай даследніцы. Пра жыццёвы і творчы шлях першай на Беларусі жанчыны-кандыдата навук нагадаў прысутным кандыдат філалагічных навук І.К.Германовіч. Уразіла ўпартасць і настойлівасць, жыццястойкасць і воля Марыі Андрэеўны, якая замест страчанай у ваенным ліхалецці гатовай кандыдацкай працы па мове Супрасльскага летапісу напісала новую і абараніла яе ў 1944 г. Член-карэспандэнт АН Беларусі А.І.Жураўскі акрэсліў навукова-метадычныя погляды мовазнаўцы, звярнуўшыся да праблемы паралельна-гістарычнага метаду. Таксама выступалі заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі, дацэнт БДУ В.В.Казлова, дацэнт Белпедуніверсітэта імя Максіма Танка Э.Д.Блінава, мовавед І.А.Каралёва (дачка Марыі Андрэеўны), натхняльнік ды арганізатар чытанняў загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы, намеснік дэкана філфака М.Р.Прыгодзіч.

Усцешвае, што распачатая адметная традыцыя ўшанавання беларускіх даследнікаў. Як адзначыла на чытаннях пляменніца Марыі Андрэеўны прафесар-фалькларыст Г.А.Барташэвіч,— аднаўляецца наш навуковы радавод.

**В.Л.**

*Чыталі?*

## Паэт з адарванага краю




Сёлета Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф.Скарыны выпусціў у серыі "Творцы беларускага замежжа" выданне: *Вайвадзіш Э. Вершы, паэма, згадкі. Мн., 1996.* Наклад — 1000 асобнікаў. Аўтар гэтай сціплай кніжкі — старэйшы беларускі паэт і асветнік Эдвард Вайвадзіш. Выданне можа быць карысным і для таго, хто цікавіцца гісторыяй беларускага нацыянальнага руху. Рэч у тым, што Э.Вайвадзіш шчыраваў на ніве беларускага адраджэння яшчэ ў 20-я, 30-я гады.

Нарадзіўся ён 5 лютага 1897 г. у вёсцы Вайвады (Віцебская губерня, Дрысенскі павет, Прыдруйская воласць). Гэтая мясціна ў 1920 г. апынулася пад Латвіяй. Такім чынам, паэт і цяпер жыве за мяжой. Дзякуючы намаганням С.Панізьніка, колішняга вучня Вайвадзіша Ф.Бартуля (яго коштам выдадзены зборнік), А.Мальдзіса гэтае выданне ўдалося здзейсніць. Яшчэ ў 1926 г. у Рызе выйшаў зборнік гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі. Сярод іх — Э.Вайвадзіш (у зборніку — Э.Вайводзіш). Дарэчы, у "Нашым слове" ( № 5, 1995) чытач (калі не чытаў) можа пазнаёміцца з падборкай вершаў паэта. Таксама — уступнае слова С.Панізьніка "...Не згублены для беларускай культуры".

Гартаючы апошні зборнік паэта, заўважаеш, што гэта не класіка, але вершы могуць зацікавіць своеасаблівасцю Э.Вайвадзіша:

*Я кожны дзень бліжэй да сьмерці.*
*Яна і круціць мой язык*
*За гэты спрыт падхопяць чэрці,*
*Мяне засмажаць, як шашлык.*
*Але за што, спытайце Бога,*
*Пяклую сёньня ў калатне?*
*Я не пакрыўдзіў анікога:*
*Худыя костачкі ў мяне...*

Паэма "Ундзіна", змешчаная ў гэтай кнізе, называецца тут легендай. Яна створана ў 1968 г. Твор вабіць сваім лірызмам, мастацкасцю. Гэта паданне таго краю, дзе жыве Э.Вайвадзіш. І характэрнай рысай паэмы ёсць фальклорная паэтыка:

*Алесь:*
*— Бяжым адсюль хутчэй! ў начы*
*Мы зможам лёгка уцячы.*
*Ундзіна:*
*— Ах, любы мой Алесь, як*
*страшна!*
*А мо застацца болей важна?*
......................

***

*Плывуць па возеры вяночкі:*
*Штурхае вольны вецярок.*
*І бачаць зараніцы вочкі,*
*Што тоне кволенькі вянок.*
......................

Канцоўка паэмы нагадвае купалаўскі стыль:

*XVI*
*Лягенду гэтую паведаў*
*Пакойны бацька мне даўно.*
*А потым чуў я ад суседаў...*
*...Асела многае на дно.*
......................

У мемуарах "Мае крокі па дрогкай зямлі" паэт распавядае пра жыццёвы шлях, пра важнейшае, на яго думку. Прыкладам тут згадваецца і славуты беларускі спявак: "Забэйду-Суміцкага я меў шчасьце бачыць і слухаць яго песьні ў 1943 годзе — у Даўгаўпілсе, у час нямецкай акупацыі. Сьпяваў нам у большасьці народныя песьні — "Зязюля кукавала", "Ляціць сарока", "Калыханка" і іншыя".

Таксама ў кнізе змяшчаюцца ілюстрацыі, уступны артыкул Ф.Бартуля "Ён зрабіў мяне тым, кім я ёсць", артыкул С.Панізьніка "Жалуды пад векавой каронай" і іншае.

Паэт, як кажуць, звекаваў. Хутка ягонае 100-годдзе. Пажадаем яму дабра!

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

## Даты і падзеі ў лістападзе

**15** — Пачыналася Піліпаўка (Піліпаў пост) і доўжылася да 24 снежня.
— 465 гадоў таму на Віцебшчыне адбыўся ці не апошні народны суд — так званы копны. Разглядалася справа пра межы ўладанняў.
— 75 гадоў з дня нараджэння Валерыя Прышчапёнка, спевака, заслужанага артыста Беларусі.
— 75 гадоў з дня нараджэння мастака Рыгора Грамыкі.

**16** — 200 гадоў таму памерла расійская імператрыца Кацярына II. Гэтая падзея мела непасрэдны ўплыў на лёс Андрэя Тадэвуша Касцюшкі — вязня Шлісельбургскай крэпасці.
— 135 гадоў таму Францішак Багушэвіч быў звольнены па стане здароўя з Санкт-Пецярбургскага універсітэта.
— 125 гадоў таму пачаўся рэгулярны рух цягнікоў на чыгунцы ад Смаленска да Брэсэцця.
— 100 гадоў з дня адкрыцця ў Менску першай тэлефоннай станцыі агульнага карыстання.

**17** — Міжнародны дзень студэнтаў.
— 190 гадоў таму ўдзельнік бітваў пры Аўстэрліцы і Шэнграбіне Вікенцій Равінскі, верагодны аўтар беларускай паэмы "Энеіда", быў узнагароджаны ордэнам Святой Анны.

**18** — 80 гадоў з дня нараджэння мастака У.Кухарава.
— 75 гадоў з дня нараджэння мастака І.Бароўскага.
— 65 гадоў з дня нараджэння паэта Анатоля Вярцінскага.

**19** — 285 гадоў з дня нараджэння Міхайлы Ламаносава, расійскага навукоўца, паэта, мастака, гісторыка, які ў ліку сваіх "врат учёности" назваў "Граматыку" беларускага мысліцеля, навукоўца, педагога Мялеція Смагрыцкага.
— 60 гадоў з дня нараджэння Эрнэста Ялугіна, пісьменніка, публіцыста, рэдактара газеты "Наша слова".

**20** — 95 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Міхася Зарэцкага (М.Я.Касянкова).
— 75 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Сільніцкага, Героя Савецкага Саюза, удзельніка партызанскага руху на Віцебшчыне.

**21** — 170 гадоў таму ў Гародні быў адкрыты прыродазнаўчы музей.
— 135 гадоў з дня нараджэння Юльюша Каленбаха, гісторыка літаратуры, прафесара Віленскага і іншых універсітэтаў.
— 70 гадоў з дня адкрыцця ў Віцебску Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра (БДТ-2). Ягонымі эмблемамі з'яўляліся: васілёк і серп з молатам; вершнік ("Пагоня"); серп і молат; партрэт Якуба Коласа.
— 50 гадоў з дня нараджэння мастака Л.Зяневіч.

**Падрыхтаваў З.С.**

## "Чалавека памяну словам чалавечым..."

(Крэскі да творчага партрэта Міры Лукшы)

Людзі найчасцей аддаюць перавагу "святой ілжы", баючыся зазірнуць у вочы бязлітаснай праўдзе. Але немагчыма жыць без ісціны, якой бы непажаданай яна ні была. І жыццё кожнага чалавека, яго хрысціянскай душы ёсць усё ж нясенне крыжа пакут уласных, болю родных і Айчыны на спрадвечным шляху да Госпада. Толькі мужны чалавек здольны жыць у згодзе з праўдай, адчуваючы першародны смак сапраўднага жыцця, жыцця бы на вастрыні нажа.

Відаць, сутнасць сапраўднага геразму і мужнасці роднасная асноватворнаму закону Сусвету — вечнаму закону хрысціянскай любові (да бліжняга); чалавек вольны рабіць, што захоча, што пажадае, не парашаючы.

Шчырая любоў да чалавека, імкненне зразумець яго душу праз процьму памылак, азлаблення і ўнутранай жорсткасці, зразумець — і... апраўдаць, бо кожны ў гэтым свеце мае хрысціянскае права разумення і даравання, — з'яўляецца вызначальным у творчасці Міры Лукшы. І глыбокагуманістычнае вырашэнне гэтай тэмы, як у Леаніда Галубовіча "чалавека памяну словам чалавечым", міжволі ставіць пісьменніцу поруч з глыбіннымі выказнікамі дум свайго народа,— з класікамі нацыянальных літаратур.

Сапраўды, апавяданні пісьменніцы вельмі роднасныя натуралістычнай школе XIX-XX стст., якая дала свету і творы славутай "Чалавечай камедыі" А. дэ Бальзака, "Вечары на хутары блізу Дзіканькі", "Старасвецкія памешчыкі", "Пецярбургскія аповесці" М.Гогаля, знакамітыя ляскоўскія цыклы, чэхаўскія празаічныя мініяцюры...

Здаецца, незвычайная дабрыня, спагадлівасць, тактоўнасць голасу аўтара знайшлі свой плённы працяг на беларускай, беластоцкай глебе. І цяжка сказаць, ці антычнай мудрасцю, ці чулай чэхаўскай дабрынёю прасякнуты такі праграмны для аўтаркі верш "Не кажыце Спарце...":

*Не кажыце Спарце*
*прахожыя*
*не кажыце,*
*што я тут ляжу,*
*яе сын,*
*забіты на вайне.*
*І не выйграў я*
*і не забілі*
*ворагі мяне.*
*Не зберог сябе*
*я,*
*а ратаваць хацеў*
*усіх!*
*Не кідайце мне*
*ні слязы,*
*ні каменя,*
*ні слова.*
*Хай бы*
*і не было мяне*
*сярод барацьбітоў,*
*што нарадзіліся*
*для справы,*
*для слова,*
*для славы.*

Спрадвечная тэма любові да чалавека, шчырае імкненне дапамагчы яму, здаецца, у самай бязвыхаднай сітуацыі, родніць героя М.Лукшы з св.Іаанам Багасловам, знакамітым апосталам хрысціянскай любові. Напрыклад, Федзік з аднайменнага апавядання (зб. "Дзікі птах верабей") напачатку здаецца ледзь не якімсьці тыпам "маленькага чалавека": "Школы ў горадзе не кончыў, плакаў па начах у інтэрнаце і пад час практыкі на фабрыцы, а пілавінкі са станка вінаваты былі ў тым, што яго вочы чырванелі. Федзікава сэрца трапятала, калі даходзіў пах мокрае мяты на далёкім ветры з-над Нарвы, пах сытага торфу, сітніку і трысця на падрэчках. Хутка бег са станцыі, у бок, дзе ў цемнаце, пад гарызонтам, над якім удзень сінеў зубчасты бераг Белавежскай пушчы, глыбока пабрэхвалі сабакі. Пазнаваў голас сваіх, якія нудна адклікаліся ад суседскіх ці сумна падвывалі на полі, прывязаныя да слупка, пільнуючы жыта ці рэпу ад дзікоў".

Якая даверлівая шчырасць і адначасова мудрая сталасць пачуцця!.. І мы не ведаем, пра каго больш гэтыя радкі: пра прыроду ці пра ўзаемаадносіны людзей. Ствараецца адчуванне, што час ад часу пісьменніца звяртаецца да прыроды, каб набрацца з яе адвечных крыніц чысціні і трапяткой чалавечнасці.

І гэты імройны подых мясцовага, не рэальнага, а нейкі падсвядомы, быў у трызненні, робіць постаць героя манументальнай, бо ў непрыманні здрады роднаму лірычны герой Міры Лукшы тоесны лірычнаму герою Уладзіміра Караткевіча:

*Вы, што маці душу забылі,*
*Без яе пажадалі пражыць,*
*Што вы варты без гэтай*
*магілы,*
*Без каліны на роднай мяжы?*

Так, відаць, феномен нашай нацыі ў тым, што калі чалавек усведамляе сябе беларусам, то ён не можа не быць патрыётам, чалавекам чулай, высакароднай душы, якім праявіў сябе Федзік у каханні — сяброўстве да польскай дзяўчыны Ізы. А найкаштоўнейшыя здабыткі беларускага архетыпу, якія так ахвотна пазычалі нашыя суседзі ў сярэднявеччы,— напэўна, гэтыя вартасці архетыпу і дапамагаюць зразумець сутнасць і духоўную веліч нашай нацыі і, на жаль, амаль замоўчваюцца зараз.

Безумоўна, да ліку лепшых празаічных твораў пісьменніцы варта аднесці апавяданне "Жанчына з хворaю рукою" (зб. "Выспа"): У гэтым творы ўлюбёная аўтаркаю тэма любові да ўсяго жывога знаходзіць своеасаблівае развіццё ў таямніцы ўзаемаадносін чалавека з "братамі нашымі меншымі". Трагічная гісторыя смерці "жоўтага сабакі Арэшкі з гнойнымі вачыма" на хворых руках састарэлай жанчыны Адэлі ўражвае незвычайнай даверлівай еднасцю, якая ўсталёўваецца паміж чалавекам і жывёлай, як трапяткім, засмучаным поглядам да нас, чытачоў, нібы яна, Арэшка, развітваючыся з намі на мяжы жыцця і смерці, хоча паведаміць нам нешта патаемнае пра наш усеагульны боль — занядбанне бацькоўскай і дзедаўскай мовы і зямлі.

**Алена ЯСКЕВІЧ, кандыдат філалагічных навук.**

Згадкі

# “Арышт Лёсіка лічу вялікай памылкай...”

31 кастрычніка 1922 г. адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 1-й гадавіне Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гэта была радасная падзея для ўсёй рэспублікі, не кажучы пра выкладчыкаў і студэнтаў універсітэта. У ліку тых, хто выступаў на гэтай урачыстасці, былі нарком асветы і дэкан педагагічнага факультэта, выкладчык беларускай гісторыі Усевалад Макаравіч Ігнатоўскі і выкладчык беларускай мовы Язэп Юр'евіч Лёсік.

На наступны дзень у перадавым артыкуле газеты “Савецкая Беларусь” можна было прачытаць наступнае: *“... І нарэшце трэба адзначыць прамову Лёсіка, быўшага працўніка савецкага строю на Беларусі, які першы раз дэкляраваў сваю сімпатыю Савецкай уладзе... і закончыў сваю прамову клічам: “Хай жыве Савецкая ўлада!” У вуснах Лёсіка, які не кідаў слоў на вецер, такі кліч адзначае прызнанне сваіх памылак і мае выключнае значэнне”.*

Не ведаў Язэп Юр'евіч, адбіваючы паклоны Савецкай уладзе, што ён як асоба, як беларускі працаўнік, вельмі недаспадобы гэтай уладзе, найперш партыйнай. На пасяджэнні Цэнтральнага Бюро КП(б)Б яшчэ ў верасні было прынята рашэнне *“падняць у прэсе кампанію супраць антысавецкіх беларусаў — грамадскіх дзеячаў з тым разлікам, каб праз месяц выслаць гр. Лёсіка”.*

“Антысавецкасць” беларусаў была найперш у іх беларускасці. Змаганне з беларускімі працаўнікамі асабліва актыўна пачало праводзіцца з лютага 1921 г., калі ДПУ, са згоды ЦБ КП(б)Б, арыштавала 860 чалавек (па некаторых звестках — 1500). Большасць з іх былі сябры БПСР (Беларускай партыі эсэраў), некаторыя змагаліся за беларускую дзяржаўнасць, уваходзячы ў Раду БНР. Але заадно, без разбору, арыштоўвалі ўсіх працаўнікоў беларускіх культасветустаноў. Гэта мог быць настаўнік, артыст, кіраўнік хору, інспектар аддзела народнай адукацыі (АНА), бібліятэкар, студэнт. Іх правіннасць была ў тым, што вучылі беларусаў нацыянальнай самасвядомасці. У верасні 1921 г. былі арыштаваныя такія вядомыя на той час людзі, як кіраўнік хору БДТ-1 Уладзімір Тэраўскі і акцёр, адзін са стваральнікаў беларускага савецкага тэатра, камісар першага савецкага ўрада Усевалад Фальскі. Яны былі абвінавачаныя ў антысавецкай дзейнасці і засуджаныя да смяротнай кары, якая была замененая высылкай на 5 гадоў. Сярод ваяўнічых барацьбітоў супраць беларушчыны, *“у сувязі з кампаніяй супраць дробнабуржуазных уплываў і нацыянальных ухілаў”*, быў загадчык агітацыйна-прапагандысцкага аддзела (АПО) ЦБ КП(б)Б Якаў Беркавіч Быкін (з 11 траўня 1922 г. ён яшчэ ўваходзіў і ў склад Прэзідыума ЦБ). ЦБ у канцы верасня, абмяркоўваючы рашэнне ЦК РКП аб адкліканні Быкіна з Беларусі, падкрэслівала, што *“адкліканне з'яўляецца палітычнай памылкай і будзе вытлумачана як аслабленне барацьбы супраць шавіністычна-нацыяналістычнай інтэлігенцыі розных нацыянальнасцяў і нездаровага ўхілу некаторых членаў партыі, якія прыйшлі ў нашы шэрагі з шэрагаў беларускіх эсэраў”.*

Прайшло два тыдні пасля ўрачыстасцяў — і ДПУ арыштавала Язэпа Лёсіка. На выратаванне кінуўся Усевалад Ігнатоўскі.

У Нацыянальным архіве захоўваецца ліст Ігнатоўскага, адрасаваны Прэзідыуму ЦБ КП(б)Б. Датаваны ён 11 лістапада 1922 г. Прапануем яго чытачам (у перакладзе на беларускую мову).

*У Прэзідыум ЦБ КП(б)Б*

*Некалькі дзён таму арыштаваны Лёсік. Лічу неабходным з гэтай нагоды некаторыя меркаванні, якія прашу прыняць да ўвагі.*

*1. Апошнім часам Лёсік стаў вызначацца даволі яскрава ў бок прызнання адзіна магчымай і неабходнай формы Савецкай Беларусі, аб чым я ведаю як на падставе размовы з ім, так і на падставе ўзяцця ім на сябе шэрагу работ, ад якіх раней ён магчыма ўхіляўся. Па прапанове Вайнера ён згадзіўся ўзяцца за пераклад на беларускую мову камуністычнага маніфеста і па маёй прапанове згадзіўся быць рэдактарам зборніка на беларускай мове пад загалоўкам “Нацыянальнае пытанне ў рамках разумення кампартыяй і Савецкай уладай”, па сваім уласным жаданні пачаў пераклад тэорыі гістарычнага матэрыялізму Бухарына. Апошняе яго выступленне на універсітэцкім акце канчаткова выявіла яго адносіны да “вялікай расійскай рэвалюцыі” (яго ўласныя словы) і Савецкай Беларусі, што ў свой час было адзначана прэсай (“Савецкая Беларусь”, № 242). Вызначэнне Лёсіка супала з публічным вызначэннем у тым самым нумары Смоліча, што мае вялікае палітычнае значэнне для нас і для нашай працы за мяжой. Арышт Лёсіка пасля ўсяго вышэйсказанага я лічу вялікай памылкай ДПУ, зусім немэтазгодным фактам і для мяне зусім незразумелым.*

*2. Арышт Лёсіка выклікаў спыненне выкладання беларускай мовы на ўсіх аддзяленнях універсітэта і педфака. Замяніць Лёсіка няма кім, сярод беларускага студэнцтва арышт яго выклікаў поўнае неўразуменне. Што датычыць буржуазна-нэпаўскага элемента з вялікадзяржаўнымі, іншы раз нават чарнасоценнымі, поглядамі на беларускае пытанне (і запісак, якія падавалі ў свой час Лёсіку), то гэтае студэнцтва вельмі задаволена арыштам. На гэтай глебе ідуць вельмі цікавыя размовы ў студэнцкім, некамуністычным асяродку.*

*3. Пераклады, пачатыя Лёсікам, і пераклады, якія мяркуюцца намі, беларусамі-камуністамі, стаяць і будуць стаяць на месцы, таму што і тут замяніць Лёсіка няма кім. Партыйныя беларусы вельмі слабыя ў беларускім пытанні, і нічога не зроблена, каб яны маглі замяніць некамуністаў у справе культурнага будаўніцтва.*

*4. Арышт Лёсіка прыпыніў раскол сярод беларускіх культурнікаў у Інбелкульце, які на працягу апошняга месяца пайшоў вельмі хутка ў сувязі з прызначэннем туды на працу Жылуновіча. Жылуновіч пастаўлены арыштам Лёсіка ў даволі цяжкае становішча.*

*Ёсць яшчэ шэраг другарадных меркаванняў па гэтым пытанні, якія за адсутнасцю часу я не магу цяпер накідаць.*

*Усё гэта прымушае мяне прасіць Прэзідыум ЦБ паставіць пытанне аб арышце Лёсіка на адным з сваіх пасяджэнняў. Акрамя таго, я прасіў бы выклікаць мяне на гэта пасяджэнне для дачы вусных дадатковых тлумачэнняў.*

*Мой погляд: вызваліць Лёсіка. Калі Прэзідыум лічыў, што ён недастаткова выявіўся — вызначыць тэрмін для выяўлення ў напрамку, пажаданым для Прэзідыума.*

*Арышт Лёсіка стварыў для нас, камуністаў-беларусаў, вельмі цяжкае становішча. Працаваць вельмі цяжка, таму што арышт Лёсіка выявіў нашу незгаворанасць з ДПУ.*

*З кампрывітаннем У.Ігнатоўскі.*

*1922 11.XI.*

*P.S. Толькі што вычытаў у “Бел. звоне” № 29 такую заметку ў хроніцы: “Колас, Лёсік і Ярашэвіч высланы Савецкай уладай у Сібір па невядомай для нас прычыне”. Лічу неабходным паведаміць пра гэту заметку.*

*У.Ігнатоўскі.*

Як бачым, Ігнатоўскі ўпамінае і як бы абараняе ў лісце не толькі Лёсіка, але і Аркадзя Антонавіча Смоліча, выдатнага беларускага працаўніка, аўтара знакамітай “Геаграфіі Беларусі”. Ён быццам прадчувае, што гэтая самая партыйна-савецкая ўлада не давярае і Смолічу. У іншым дакуменце таго часу, калі сакрэтны аддзел ДПУ высвятляў “палітфізіяномію” Смоліча, ён параўноўваў яго з Лёсікам (“тип Лёсика”).

Аўтар “Беларускай граматыкі”, як і аўтар “Геаграфіі” любілі сваю Бацькаўшчыну і сваёй руплівай працай спрыялі нацыянальнаму абуджэнню беларусаў. А для ўладароў-небеларусаў гэта было найвялікшым крыміналам.

Прэзідыум ЦБ не пагадзіўся на перагляд сваёй пастановы адносна Лёсіка, і хадайніцтва Ігнатоўскага не было задаволена. 14 лістапада ЦБ КП(б)Б пацвердзіла, што *“пастанова Прэзідыума ЦБ па даным пытанні не падлягае перагляду”*. На тым самым пасяджэнні было прынята рашэнне *“ў мэтах вызначэння лініі паводзін склікаць на бліжэйшы час сход актыўных працаўнікоў Беларусі”*. Ці быў скліканы гэты сход — невядома. Знайсці яго сляды па дакументах нам не ўдалося.

Між тым мінуў лістапад, затым снежань 1922 года. Наступіў 1923 год. Мы не ведаем, чым займаўся Лёсік у вязніцы, пра што ён думаў, ці ўспамінаў сваю шматгадовую высылку пры царскай уладзе. Як не ведаем і таго, хто ўсё ж такі дапамог яму выйсці тады на волю. Магчыма, нарком унутраных спраў Язэп Адамовіч, а можа хто іншы. У ЦБ КП(б)Б аб гэтым даведаліся 6 студзеня 1923 года. Быў суботні дзень, але члены ЦБ тэрмінова сабраліся, каб выслухаць сакрэтную заяву прадстаўніка рэвізійнай камісіі Буніна. Пастанавілі зрабіць запыт у ДПУ з просьбай *“сообщить мотивы освобождения гр. Лёсика”*.

Заключная старонка гэтай сумнай гісторыі — паведамленне сакрэтнага аддзела ДПУ, дасланае ў ЦБ КПБ 20 студзеня 1923 г.:

*ДПУ Беларусі паведамляе, што ў адносінах да гр-на Я.Ю.Лёсіка зменена мера абмежавання вызваленнем яго з-пад варты з прычыны дадзенай ім падпіскі аб адмаўленні ад усялякай антысавецкай дзейнасці. Пастанова аб высылцы гр-на Лёсіка, якая санкцыяніравана калегіяй ДПУ РСФСР, застаецца ў сіле.*

*Стар. ДПУ Пінталь*

*Нач. СА Карэйва.*

Як бачым, пастанова санкцыянавана ўстановай чужой дзяржавы. Нават яшчэ і не СССР, які яшчэ толькі ствараўся (з 30 снежня 1922 г.).

Такім чынам, рашэнне “заставалася ў сіле”. Было рэалізавана яно ў 1931 годзе. **Памёр Язэп Юр'евіч Лёсік 1 красавіка 1940 г. у турме г.Саратава.**

**Аляксандра ГЕСЬ.**

Замежжа

# Прэзідэнт Туркменістана: за пяць год незалежнасці краіна прарабіла шлях, роўны стагоддзю

Не так даўно, не заўважанае для абсалютнай бальшыні беларускага грамадства, у цяпер ужо далёкай, нягледзячы на сувязі СНД, Туркменіі ўрачыста прайшло на высокім дзяржаўным узроўні свята — 5-годдзе з дня абвяшчэння незалежнасці рэспублікі. На самым пачатку не толькі ў Маскве, але і ў самім Туркменістане было даволі многа людзей, якія казалі, што гэтая краіна, нягледзячы на багатыя радовішчы нафты і газу, не здолее развівацца самастойна са сваёй маларазвітай прамысловай інфраструктурай: у “мазгавым цэнтры” былога СССР ёй была адведзена роля сыравіннага прыдатку, а насельніцтву настойліва прывіваўся комплекс нацыянальнай непаўнавартасці. Тым не меней, гісторыя дала Туркменістану шанс на магчымасць самастойнага існавання, і ягоныя кіраўнікі замест таго, каб стрымліваць нацыянальнае развіццё краіны і змагацца за новае “зліццё” ў СССР і вяртанне “светлага мінулага” (а ў тым мінулым жылі яны вельмі нават някепска дзякуючы добра наладжанаму подкупу маскоўскіх вышэйшых чыноўнікаў), пачалі настойліва працаваць над праграмай рынкавых рэформаў ва ўмовах поўнай дзяржаўнай незалежнасці. І пакуль у нас пераказвалі анекдоты пра “туркменбашы” і ў каторы раз глядзелі па тэлебачанні кінафільм “Белае сонца пустыні”, сталася так, што Туркменістан упэўнена абышоў на шляху рынкавых адносін індустрыяльна развітую і маючую высокакваліфікаваных рабочых і значны навуковы патэнцыял Беларусь. А гэта, як паказвае вопыт Заходняй Еўропы (і нават адной адносна невялікай па сусветных стандартах Чэхіі), не горш, чымся мець у сваіх нетрах нафту і газ. Урэшце, якуты таксама гэта маюць, а ў дадатак — золата, алмазы, каштоўнейшую пушніну, драўніну, а жывуць як? Тое ж і Татарстан, які толькі цяпер ужо каторы год упарта спрабуе хоць з большага распарадзіцца сваім нацыянальным лёсам. Таму не дзіўна, што, нягледзячы на некаторыя анекдоты, прэзідэнта Туркменістана Сапармурата Ніязава ўжо ўспрымаюць не як экзатычнага “туркменбашы” і новага ўсходняга дэспата, а сапраўднага руплівага кіраўніка-рынachніка, які не толькі не грэбуе асаблівасцямі нацыянальнай самасвядомасці свайго народа, а ўмела карыстаецца імі дзеля эканамічнай і палітычнай незалежнасці Туркменістана. Прэзідэнта Сапармурата Ніязава апошнім часам распытвалі журналісты вядучых газет з усяго свету. Тут мы звернем увагу на інтэрв'ю, якое ён даў карэспандэнту элітарнай расійскай “Литературной газеты”, якая, нарэшце, пачала больш аб'ектыўна асвятляць працэс станаўлення новых дзяржаў, што ўзніклі пасля распаду СССР.

Адзначыўшы, што ў гэтым працэсе ёсць агульныя асаблівасці, але ёсць і спецыфіка, карэспандэнт “ЛГ” папрасіў прэзідэнта Туркменістана ахарактарызаваць яе ў адносінах да яго краіны.

— Я не стамляюся паўтараць, — сказаў Сапармурат Ніязаў, — што наўрад ці за ўсю былую, ды і, бадай, будучую гісторыю майго народа знойдзецца часавы адрэзак, гэтак значны для нашага нацыянальнага лёсу. За гэтыя пяць гадоў па маштабах дасягнутага мы прарабілі шлях, роўны, магчыма, стагоддзю. Па сутнасці, гэта была пяцігодка станаўлення туркменскай дзяржаўнасці.

Рэспубліку, працягваў туркменскі прэзідэнт, якая яшчэ нядаўна з'яўлялася сыравінным прыдаткам прамысловых цэнтраў СССР, сёння свет пачынае ўспрымаць як незалежную, нейтральную дзяржаву, якая выбрала свой шлях развіцця, сваю праграму рэформаў, якая абапіраецца менавіта на нацыянальны характар туркменаў, іхні духоўны патэнцыял, а не чый бы то ні было іншы.

Карэспандэнт “Литературной газеты” заўважыў, што некаторым здаецца “сенсацыйным” абарона прэзідэнтам тых людзей, якія займаюцца спекуляцыяй. Сапармурат Ніязаў заўважыў, што гэта думка людзей, няхай сабе яны і лічаць сябе “аналітыкамі”, якія кепска ведаюць, што цяпер адбываецца ў Туркменістане, і па інерцыі ўсё яшчэ лічаць краіну “савецкай”. Так, працягваў прэзідэнт, за гады існавання ранейшай сістэмы непазбежна павінна было сфармавацца асаблівае ўспрыманне каштоўнасцяў, якія ва ўсім свеце лічацца ўніверсальнымі, але гэта пераадольваецца. “А што такое спекуляцыя, калі добра задумацца? — заўважыў Ніязаў. — Звычайны гандлёвы бізнес. Калі гандляр не будзе мець магчымасці зарабіць на куплі-продажы, ён не будзе гэтым займацца. Каму ад гэтага кепска? Простым людзям, насельніцтву. Так і было раней, калі працаўнік, каб купіць дзецям цукерку, мусіў ехаць ажно ў сталіцу... А хто такі купец, герой мноства ўсходніх казак і паданняў? — працягваў прэзідэнт Туркменістана. — Звычайны перакупшчык, спекулянт, калі перанесці гэтае паняцце на сучасную абыдзенную мову.

Але ж без купца няма рынку. Без рынку няма абмену і забеспячэння народа ўсім неабходным”...

Чытаеш такое і складваецца ўражанне, што разважае не кіраўнік усходняй “савецкай” краіны, як мы прывыклі лічыць, а нехта з “рыначнікаў”, па меншай меры, Эстоніі. А што за гэтым не проста словы, Сапармурат Ніязаў адразу ж пацвярджае прыкладамі з народнай гаспадаркі сваёй краіны. “У парламентах іншых краін СНД яшчэ толькі спрачаліся, — кажа ён, — ды і зараз спрачаюцца, аддаваць селяніну зямлю ва ўласнасць ці не, а мы ўжо пачалі гэта рабіць. Перадавалі альбо ў прыватнае валоданне, альбо ў доўгатэрміновую арэнду з правам перадачы па спадчыннасці... Акрамя таго, ва ўласнасць перададзены ўсе асабістыя прысядзібныя ўчасткі... Падобныя працэсы адбываюцца ў іншых галінах гаспадаркі... Рынкавыя адносіны закранулі не толькі гандаль і сферу побытавага абслугоўвання, ідзе прыватызацыя невялікіх заводаў, фабрык, прадпрыемстваў транспарту... і, канешне ж, рынак патрабуе не толькі тавараў, але і законаў, па якіх ён павінен развівацца. Таму вялікія задачы стаяць зараз перад нашымі парламентарыямі... Туркменскія юрысты, парламентары знаходзяцца ў пастаянным кантакце са сваімі калегамі як на Захадзе, так і на Усходзе... Нельга забываць і аб гістарычным шляху Туркменістана, ментальнасці яго народа...”

Так зноў прэзідэнт Туркменістана пераходзіць да тэмы нацыянальных каштоўнасцяў свайго народа, якія цвёрда аберагае суверэнная дзяржава. Туркменістан, падкрэсліў ён, за дружбу паміж суседзямі і ўзаемавыгадныя сувязі, але супраць таго, каб умешвацца ва ўнутраныя справы некага. “Нельга ўлазіць са сваімі парадамі ў чужую сям'ю. Туркменістан спавядае філасофію адзінства ў шматаблічнасці. Прэзідэнт Расіі Б.М.Ельцын, заўважае лідэр Туркменістана, таксама “з трыбуны ААН сказаў, што свет цудоўны ў сваёй шматаблічнасці. І гэткі ж падыход павінен класціся ў аснову будаўніцтва адносін паміж краінамі СНД, — падкрэсліў Сапармурат Ніязаў, — нікога не трэба заганяць у жорсткія структурныя рамкі, тады члены Садружнасці будуць адчуваць натуральную цікавасць да інтэграцыі. Калі ж інтэграцыя спускаецца зверху як дырэктыва, то нічога добрага з гэтага не атрымаецца...”

**Ул.Ас.**

Замежжа

# Як важна своечасова зазірнуць у слоўнік

Германскага канцлера Гельмута Коля іншым разам жартам называюць “жалезным”. Не таму, што ён сваім характарам і палітыкай напамінае знакамітага некалі папярэдніка, а па прычыне ўраўнаважанасці характару і здольнасці знаходзіць прыгожыя выхады ў самых розных крытычных сітуацыях. Нядаўна, паведамляюць замежныя карэспандэнты, ён ужыў для гэтага... тлумачальны слоўнік. Нягледзячы на пастаянную крытыку ў бундэстагу з боку апазіцыі, бальшыня аналітыкаў лічыць, што ў бліжэйшы час вотуму недаверу яму не будзе. Ну, а крытыку на свой адрас ён імкнецца парыраваць не пагрозамі, а гумарам. Так было і на гэты раз, калі “зялёны” парламентарый крытыкаваў канцлера за недастатковую, на ягоную думку, увагу да аховы прыроды. Раздражнёны тым, што канцлер спакойна выслухоўвае гэтыя палкія напады, парламентарый назваў Коля “ўсходнім Будам”, які “адмоўчваецца” і “выседжвае” свае праблемы. Пакуль той выступаў, паведамляюць журналісты, Гельмут Коль папрасіў прынесці яму энцыклапедычны слоўнік. Затым, дачакаўшыся канца крытычнай прамовы парламентарыя, папрасіў слова і, падзякаваўшы аратару за “пахвальны эпітэт”, працытаваў са слоўніка: Буда можа служыць сімвалам упэўненасці ў сваіх сілах і палітычнай разважлівасці, здаровага розуму. Канцлеру апладзіравала нават апазіцыя.

**Л.М.**

## Міні-спектакль Людмілы Наруш

Сваю новую творчую задумку метадыст Слуцкай цэнтральнай бібліятэкі Людміла Наруш выношвала каля года. Перачытала ўвесь Новы Запавет з Бібліі, зборнікі беларускіх абрадавых песень, адшукала і занатавала ў сшытак тыя, што былі сугучныя яе задумцы — калядоўныя. І напісала сцэнарый "Нараджэнне Хрыстова". На роднай мове, балазе ў бібліятэцы ёсць Евангелле, выкладзенае па-беларуску.

У свой час Людміла пісала сцэнарыі для міні-спектакляў "Вечар Грыбаедава", "Зорка Венера — галасы закаханых", "Вечар Ясеніна". Акрамя апошняга, першыя два таксама былі на беларускай мове.

Для пастаноўкі міні-спектакля "Нараджэнне Хрыстова" Людміла запрасіла супрацоўніка гарадскога цэнтра занятасці, выпускніка інстытута культуры Сяргея Ануфрэйчыка. Дарэчы, і аўтар сцэнарыя некалькі гадоў таму закончыла гэты інстытут (цяпер універсітэт). Разам падшукалі выканаўцаў вядучых і эпізадычных роляў — пераважна з ліку моладзі, якая прымае ўдзел у рабоце гуртоў мастацкай самадзейнасці і добра ведае матчыну мову. Ролю Дзевы Марыі падгадзілася выконваць Святлана Башлыкова, выхавацелька дзіцячага садка, святога Язэпа — Юра Кузьмянкоў, эканаміст, цара Ірада — Уладзімір Сапалкін, журналіст прыватнай газеты, маці Рахілі, правобраза жанчыны, якая аплаквае смерць 14 тысяч забітых па загадзе цара Ірада немаўлят,— Ірына Лук'янава, бібліятэкарка.

Усяго ў міні-спектаклі было задзейнічана дванаццаць чалавек. Выкладчыца мясцовай музычнай школы Наталля Пяцко і яе вучаніца Эльвіра Тахірава на домры і піяніна агучылі спектакль, што надало большы дынамізм падзеям, якія разгортваліся на сцэне. А сцэна вілі яго пасля калядных святаў у будынку старога Дома культуры. Не лішнім будзе нагадаць, што на гэтым месцы стаяў Свята-Міхалаеўскі сабор, адзін з прыгажэйшых у горадзе архітэктурны ансамбль. У 1935 годзе па загадзе бальшавіцкіх уладаў ён быў узарваны. Сімвалічна, што праз шэсцьдзесят гадоў на ягоных падмурках прагучалі словы ўхвалення Хрысту — сыну Боскаму.

Нягледзячы на тое, што ўваход у залу быў платным (цана білета — 40 тысяч рублёў), на спектакль прыйшло чалавек восемдзесят, людзей сталага ўзросту і моладзі.

Па водгуках удзельнікаў вечарыны, прэм'ера ўдалася, артысты здолелі перадаць абстаноўку тых далёкіх часоў, калі над маленькім палестынскім гарадком Віфлеемам запалілася зорка, апавясціўшы ўсяму свету аб нараджэнні Хрыста. Гэтаму садзейнічала і ўдала падабранае адзенне кожнаму з выканаўцаў, дэкаратыўнае афармленне сцэны, галасы з-за сцэны вядучых — Людмілы Наруш і Сяргея Ануфрэйчыка.

Пажадана, каб пастаноўшчыкі гэтага хвалюючага міні-спектакля не абмежаваліся прэм'ерай і далі яму больш доўгае сцэнічнае жыццё, тым болей, што ў горадзе зараз шмат пустуючых клубаў. Перш-наперш яго трэба данесці да моладзі — школьнікаў, навучэнцаў прафтэхвучылішчаў, большасць з якіх пакуль не трымала ў руках Біблію.

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

# Веруем

## У брацтва шмат планаў

Пачатак паўстання праваслаўных брацтваў у Беларусі сягае першай паловы XVII стагоддзя. Адной з галоўных мэтаў гэтых таварыстваў была царкоўна-асветніцкая і кнігавыдавецкая дзейнасць. Шмат высілкаў у гэтым накірунку прыкладалі віленскае, куцеінскае, супрасльскае, заблудаўскае і іншыя брацтвы. Сёння гэтую традыцыю паспяхова працягвае менскае праваслаўнае брацтва "Трох віленскіх мучанікаў".

Як гаворыць яго старшыня Мікола Матрунчык, патрэба выдання на належным узроўні якаснай рэлігійнай літаратуры наспела ў Беларусі ўжо даўно. Па колькасці выдаваемых кніг рэлігійнага характару наша краіна безнадзейна адстала ад суседніх Расіі і Польшчы. Каб хоць неяк запоўніць гэты прабел, брацтва каля двух гадоў супрацоўнічае з беларускай праваслаўнай выдавецкай фірмай "Orthdruk" з Беластока. Гэтая фірма ўжо 10 гадоў працуе на польскім рынку паліграфічнай прадукцыі і дасягнула значных поспехаў. Ёю выдаецца нямала рэлігійнай літаратуры, а таксама перыядычны часопіс "Przegląd Prawosławny". У рамках супрацоўніцтва брацтва з "Orthdruk"ам выдадзена звыш дзесятка кніг і часопісаў, некалькі выпускаў "Беларускага праваслаўнага календара", "Гісторыя полацкай епархіі", "Цэрквы і прыходы Менска", шмат іншых выданняў. Зараз бакі прыступілі да рэалізацыі асноўнага праекта апошняга часу. Да друку рыхтуецца альбом "Праваслаўная архітэктура Вялікага Княства Літоўскага", выданне якога прымеркавана да юбілею 2000-годдзя хрысціянства. Тэкст альбома ўжо падрыхтаваны, і цяпер агульнымі намаганнямі фатографаў з Беларусі, Украіны і Польшчы плануецца адзняць звыш 130-ці аб'ектаў сакральнай архітэктуры. Выдаўцы спадзяюцца, што альбом дапаможа адкрыць масаваму чытачу забытыя помнікі нацыянальнага дойлідства. Выданне павінна выйсці ў свет напрыканцы наступнага года.

А ў бліжэйшых планах брацтва чарговае выданне "Беларускага праваслаўнага календара" на 1997 год, выпуск дзіцячага рэлігійнага часопіса, а таксама сталага выдання беларускай версіі французскага праваслаўнага бюлетэня "Соб сэрвіс ортодокс дэ прэс". Нядаўна ў Беларусь прыязджаў яго галоўны рэдактар Жан Чэкан, з якім было заключана адпаведнае пагадненне. Гэты часопіс ужо 20 гадоў выходзіць у Парыжы і інфармуе сусветныя агенцтвы аб праваслаўным жыцці ў свеце. Плануецца зрабіць выданне штомесячным, і яно будзе выходзіць следам за французскім варыянтам.

Акрамя выдавецкай, сябры брацтва актыўна займаюцца і навуковай дзейнасцю. Створана тэрміналагічная група, якая складае банк дадзеных беларускіх рэлігійных тэрмінаў. Амаль цалкам з братчыкаў складаецца і біблійная камісія пры Беларускім Экзархаце. Кожны тыдзень людзі ўдзельнічаюць у семінарах і працуюць над перакладам Святога Пісьма.

Наладжана цеснае супрацоўніцтва брацтва з арганізацыяй Сусветнай Рады Цэркваў, на апошняе пленарнае пасяджэнне якой у Бразілію запрошаны прадстаўнік братчыкаў.

Зараз праваслаўнае брацтва актыўна рыхтуецца да юбілейных урачыстасцяў, якія пройдуць у наступным годзе ў Вільні. Гэта 400-я ўгодкі заснавання святадухава манастыра і 650-годдзе памяці святых прападобных віленскіх мучанікаў — галоўных патронаў арганізацыі. 26 ліпеня прадстаўнікі брацтва збіраюцца наладзіць грандыёзную пілігрымку ў Вільню, узяць удзел у якой яны запрашаюць гасцей з-за мяжы, а таксама моладзь, дарэчы, не толькі праваслаўную. Зараз арганізатары дапрацоўваюць канчатковы праект праграмы святкаванняў.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## Адмаўляцца ад Божага дару — грэх

Ужо больш за год дзейнічае ў Менску беларуская евангелічна-лютэранская суполка "Выбар Хрыста". Лютэране з'явіліся ў Беларусі ў 1562 годзе. Гэта былі ў асноўным студэнты, якія навучаліся ў еўрапейскіх універсітэтах, дзе і захапіліся новымі ідэямі і светапоглядам Марціна Лютэра. Але лютэранства ў Вялікім Княстве Літоўскім не набыло шырокага размаху, хаця аж да XX стагоддзя існавалі ў Беларусі невялікія лютэранскія суполкі, якія аб'ядноўвалі пераважна нямецкіх і прыбалтыйскіх перасяленцаў.

У 30-я гады лютэранскі рух у БССР быў практычна разгромлены, храмы канфіскаваныя ўладамі, а пастары і вернікі разглядаліся як "пятая калона" Нямеччыны і падлягалі рэпрэсіям. Тыя, хто пазбегнуў расстрэлаў і лагераў, былі вымушаныя сысці ў глыбокае падполле. У такім стане лютэране знаходзіліся да "перабудовачных" часоў, калі на базе нямецкага і латышскага культурных таварыстваў пачалося адраджэнне гэтай Царквы ў Беларусі.

Летась у Менску група аднадумцаў на чале з пастарам Міхаілам Ахрэмавічам Бадрусёвым вырашыла аб'яднаць вакол сябе прыхільнікаў евангельскага вучэння, якія жадаюць маліцца і праводзіць місіянерскае служэнне па-беларуску. Так паўстала лютэранская царква "Выбар Хрыста", якая за год свайго існавання значна вырасла колькасна і паспела заснаваць некалькі філіяў у розных месцах Беларусі.

Як гаворыць сам спадар М.Бадрусёў, яны лічаць сябе нашчадкамі лютэранскай Царквы Вялікага Княства Літоўскага, на спадчыну якой сучасныя лютэране і абапіраюцца.

Праўда, не зусім зразумелая структура і кананічная легітымнасць новай хрысціянскай суполкі. Яна падпарадкоўваецца так званаму "патрыярху" Беларускай Праваслаўнай Народнай Царквы Юрыю Рыж-Рыскаму з Амерыкі, легітымнасць святарства якога досыць сумніўная. Застаецца адкрытым і пытанне, ці пратэстанты-лютэране могуць знаходзіцца ў юрысдыкцыі праваслаўнага іерарха.

Але пры ўсіх гэтых недарэчнасцях нельга паставіць пад сумніў шчырую веру людзей і іх жаданне служыць Богу. Зараз яны наладжваюць кантакты з іншымі пратэстанцкімі цэрквамі і збіраюцца актыўна ўдзельнічаць у экуменічным руху. Пастыр М.Бадрусёў і іншыя царкоўныя актывісты навязалі кантакты з фінскай евангелічна-лютэранскай Царквой, пры дапамозе якой выдаецца рэлігійная літаратура, а таксама з балгарскай і расійскай цэрквамі. Кіраўнік фінскай царквы доктар тэалогіі Марк Сірэль нядаўна быў госцем супольнасці "Выбар Хрыста". Пад час яго візіту была дасягнутая дамоўленасць пра будаўніцтва ў Менску лютэранскага малітоўнага дома, бо да гэтага часу царква не мае сваёй сталай бажніцы. Зараз вернікі кожную нядзелю збіраюцца на набажэнствы ў памяшканні жансавета аднаго са сталічных мікараёнаў, а да гэтага быў часовы прыстанак у сутарэннях інстытута менеджменту.

У мінулую нядзелю лютэране святкавалі Свята Рэфармацыі (у гонар дня, калі Марцін Лютэр прыбіў свае вядомыя 95 тэзісаў над уваходам у Вітэнбергскі Сабор) і Дзень Жніва. За сталом, застаўленым дарамі палёў і садоў, сабралася звыш дваццаці чалавек. Набажэнства распачалося супольнай малітвай і агульнымі спевамі. Далей слова ўзяў пастар, які зачытаў рэферат на тэму гісторыі паўстання лютэранства, а царкоўныя актывісты распавялі больш падрабязна пра сэнс Свята Жніва, параўнаўшы яго з біблейскай прытчай пра вяртанне марнатраўнага сына. Пасля кожны маліўся ў сваіх і чужых патрэбах. Амаль усе малітвы і царкоўныя спевы гучалі на беларускай мове. Як зазначыў спадар М.Бадрусёў, яе ўжыванне ў царкве — зусім не выпадковасць, а свядомы выбар вернікаў. Мова — гэта Божы дар і занядбаць яго — значыць учыніць вялікі грэх, сказаў пастар. А ў наступную нядзелю ў нас свята Еўхрыстыі, многія будуць упершыню прымаць Цела Хрыста — прыходзьце, запрашае Міхаіл Ахрэмавіч, а потым дзеліцца бліжэйшымі планамі. Трэба навязаць кантакт з яшчэ дзвюма лютэранскімі групамі, якія існуюць у Менску. А яшчэ ёсць некалькі запрашэнняў прыехаць у правінцыю. З'явіліся людзі, якія самі арганізавалі малітоўныя групы, але няма пастара. І хаця ў Менску хапае работы, трэба ехаць, гаворыць Бадрусёў. Паматаеце словы Ісуса Хрыста — "Каб усе былі адно".

**Язэп СІНІЦКІ.**

## Члены нэакатэхумэнату не будуць рукапаложаныя

Прымас Англіі кардынал Базыль Х'юм прыняў рашэнне адмовіць у працягненні навучання на тэрыторыі сваёй дыяцэзіі 15 членам нэакатэхумэнату. Рашэнне было прынята пасля інтэнсіўных кансультацый з падпарадкаваным яму духавенствам, перадае нямецкае каталіцкае інфармагенцтва КНА.

Нэакатэхумэнат паўстаў у 1964 г. у Іспаніі па ініцыятыве мастака Францыска Аргуэла. У свеце існуе каля 8 000 суполак, па 20-40 чалавек у кожнай. Мэта гэтага руху — духоўнае ўдасканаленне шляхам вяртання да ідэй і традыцый раннехрысціянскай Царквы апостальскіх часоў. Многія каталіцкія іерархі бачаць небяспеку пашырэння нэакатэхумэнату ў тым, што члены груп адасобліваюцца ад парафіяльных супольнасцяў і ёсць небяспека новага расколу Касцёла.

У сувязі з гэтай інфармацыяй прэс-сакратар кард. Х'юма Чарлі Уокэй заявіў:

"Пасля шырокіх кансультацый са святарамі кардынал Б.Х'юм вырашыў, што развіццё руху нэакатэхумэнату некарыснае ў межах вестмінстэрскай дыяцэзіі, за выключэннем трох парафій, дзе суполкі нэакатэхумэнату ўжо існуюць і значна развіваюцца. Хаця кардынал вельмі задаволены павodзінамі семінарыстаў-нэакатэхумэнаў, у будучыні кардынал не збіраецца іх высвячаць на святароў у сваёй дыяцэзіі.

Кардынал падзяляе добрую характарыстыку семінарыстаў і разумее цяжкасці, якія б яны мелі пры ўваходжанні ў святарскае жыццё, калі б захацелі стаць святарамі, звязанымі з нэакатэхумэнатам.

На думку многіх ксяндзоў вестмінстэрскай дыяцэзіі, праблему складае фармальны і юрыдычны статус такіх святароў. Пасля рукапалажэння яны павінны мець двух кіраўнікоў і кіраўніка сваёй арганізацыі, што робіць немагчымым нармальнае супрацоўніцтва ў архідыяцэзіі.

Кардынал Х'юм неадназразова крытычна выказваўся пра нэакатэхумэнат. Ён падкрэсліў, што раней кожны царкоўны рух ацэньваўся ў святле таго, ці застанецца ў адзінстве з біскупам. У 1994 г. англійская дыяцэзія Кліфтан забараніла дзейнасць руху Нэакатэхумэнічная Дарога. Генеральны вікарый Джозэф Баклей сказаў, што гэтую арганізацыю можна параўнаць з многімі экстрэмісцкімі сектамі. Падобнай думкі прытрымліваецца не толькі гэта дыяцэзія, але таксама іншыя каталіцкія біскупы Англіі. Каментуючы рашэнне прымаса Англіі, айцец Францэска Данэга, кіраўнік лондanскіх семінарыстаў-нэакатэхумэнаў, заявіў, што справа яшчэ не вырашаная.

Ён згодны з думкай, што шмат святароў супраць дзейнасці нэакатэхумэнату, але інфармацыю, якую распаўсюджвае прэса кс.Францэска, лічыць тэндэнцыйнай. Такія газеты, як "Тэблет" і "Сандзі Тэлеграф", пішуць, напрыклад, што семінарысты будуць высвечаныя ў Рыме, альбо, што кардынал прыняў рашэнне пад націскам дыяцэзіяльнага духавенства — гэта не праўда. Разам з тым, гэтыя газеты, сцвярджае кс.Данэга, спрабуюць стварыць вобраз кардынала, пасваранага з Папай. Яны надаюць сваім артыкулам эфектныя назвы, як, напрыклад, "Кардынал адкідвае рымскую секту". Такія дзеянні разбураюць еднасць Касцёла, гаворыць святар.

**Паводле матэрыялаў КАІ пераклаў А.Н.**




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч*

*Вучымся*

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань
## Лён — вобраз душы

*...Сінія хвалі ільноў літаральна бясконцыя.*
**У.Караткевіч. "Зямля пад белымі крыламі".**

Уладзімір Караткевіч ужыў у цытаваным нарысе яшчэ адзін вельмі паэтычны вобраз — **сінявокія ільны**, не толькі перадаючы тым колер расліны, яе ўражвальны цэласнасцю масіў, але і адухаўляючы яе. (Вочы, як вядома, яркая праява душы, а блакітныя вочы ў мастацкім тэксце звычайна ўвасабляюць чысціню, адкрытасць, сумленне).

Колер і неабсяжнасць ільняных палеткаў сталі асновай вобразнасці ў вершы Язэпа Пушчы "Блакітнае мора". Вынесеная ў назву перыфраза змяшчае традыцыйнае ў беларускай мове вобразнае слова **мора**, якім перадаецца захапленне аўтара абсягам ільноў, падкрэсленне велічнасці гэтых краявідаў, створаных працай людзей. Замілаванне, пяшчоту нясе ацэначнае найменне, уласцівае таксама фальклору, гутарковаму стылю,— **лянок**. А значэннямі-эпітэтамі да яго абраны колеравы прыметнік **блакітны**, характарыстыкі расліны найперш як гаспадарчай культуры — **рослы, шаўкавісты, валакністы**:

*Блакітнае мора,*
*Калышуцца хвалі,*
*Даліну, узгорак*
*Прыкрылі, схавалі <...>*
*Пара залатая:*
*У ранак у росны*
*Лянок расцвітае,*
*Блакітны і рослы.*
*Красуй, валакністы,*
*Лянок шаўкавісты.*

Са сціплым ручайком, сцежкай супастаўляецца лён (вышываны маці ўзор) у вершы В.Зуёнка "Успамін": **Спадаюць ручаінкі —/ Дзве дарожкі:/ Блакітны лён і васількі-валошкі...** Паводле нацыянальных мастацкіх традыцый, тут падкрэсліваецца няспыннасць руху, гаючая моц вады. Менавіта такія якасці тоіць узноўлены ў творы ўспамін пра маці, якая лён расціла і апрацоўвала. Паэт суадносіць колер ільну таксама з іншым традыцыйным вобразам — **блакітам нябёсаў**. Такую асацыятыўнасць арыгінальна ўвасабляе ў вершы "Мой лён і сны" Л.Геніюш, узнёсла распавядаючы (праз параўнанне) пра росквіт пачуццяў, тоесных прагавітаму сілкаванню парасткаў: ***Кволы лён мой напіўся расы,/ быццам з воблакаў сіні наліўся.***

Пра лён узгадваецца ў першых радках верша Я.Янішчыц без назвы, дзе прасочваецца шлях далучэння асобы, праз выхаванне працай, да мудрасці і вопыту маці, чыімі вуснамі прамаўляе народ: ***Ты вучыла мяне сеяць жыта і лён/ І цярплівасці вечнай — уголас не плакаць.*** Заключныя радкі гучаць філасофскай высновай пра сутнасць паэтычнай творчасці, якая заключаецца ў імкненні абраць асновай мацярынскую жыццёвую мудрасць, народнае светаадчуванне. Гэта ідэя выказана праз развіццё вобраза ільну да інтэлектуальнага абагульнення: ***Мама, сею не жыта я, сею не лён./ Але з лёну і жыта я словы складаю.***

Пра старадаўнасць, адметнасць гаспадарчай расліны, яе значнасць у культурным развіцці нацыі распавядае С.Законнікаў у вершы "Лён". У гэтым паэтычным вобразе аўтар раскрывае неабсяжную гістарычную прастору. Яе трагічнасць і велічнасць перададзеныя ў метафарычным апісанні выспелага льну, якому перадаецца аўтарская сузіральная задумлівасць:

*Сумуе лён, маркоціцца аб леце,*
*І светлы сум чуйнейшым робіць слых.*
*Мелодыю вякоў выводзіць вецер*
*На звонкасрэбных струнах ільняных.*

Багацце асацыяцый мае слова **лён** у вершы польскага паэта Віктара Гамуліцкага (у перакладзе Максіма Танка), дзе параўнаннем удакладняецца неардынарная характарыстыка беларускай мовы праз колераабазначэнне: ***Духмяная, як лета, мова,/ Блакітная, як лён.***

Невычарпальная вобразнасць гэтага традыцыйнага ў беларускай паэзіі слова роўная бясконцасці і велічнасці абшараў ільноў, спасцігнуць і своеасабліва апець якія ў сваёй творчасці дапамагае паэту яго душа.

*Практычная стылістыка*

# Словы ў справе

*"Пра чалавека мы мяркуем па справах, якія ён здзейсніў".*

*"Перад смерцю Міхал нагадвае брату давесці пачатую справу".*

*"Аўтар упэўнены: сярод сялян шмат людзей, якія не могуць праявіць свае магчымасці на справе".*

Агульнавядомы, частаўжывальны назоўнік **справа** — мнагазначны, мае пэўныя стылістычныя асаблівасці ды традыцыі выкарыстання. Напрыклад, у артыкуле "Небеларуская мова ў беларускай літаратуры" Кузьма Чорны аналізуе такі выпадак няўдалага, ненатуральнага гучання гэтага слова ў мастацкім творы: "Бяжыць сялянка і крычыць: "У чым справа, у чым справа?" Няўжо гэта крычыць сялянка? Не, гэта крычыць сам аўтар п'есы. Ён думаў: "в чем дело" і пісаў "у чым справа". Дзе гэта аўтар чуў, каб сялянка гаварыла гэтак? Таму і чуецца тут фальш, таму і траціцца вобраз..." Сапраўды, для гэтай сітуацыі (і не толькі ў гутарковым стылі) існуюць іншыя словы: **Што здарылася? У чым рэч? Што тут робіцца? Што дзеецца? Што адбылося?**

Няма поўнай адпаведнасці слоў *дело/справа* і ў фразеалогіі. "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем" З.Санько красамоўна сведчыць пра гэта наступнымі прыкладамі-перакладамі: **Делу время — потехе час** — ***Перш папрацуй, а тады й патанцуй; Была нядзеля — і мы дудзелі, цяпер серада — працуй, грамада; Калі — на лянок, а калі — у танок; Гульня, ды не штодня.***

**Не твоего ума дело** — ***Не твайго носа палоса; Не тваім зубам гэта кусаць; Не тваім носам дзяўбаць; Што табе за справа: не твой хлеб есць, не тваю сарочку носіць.***

**И дело с концом** — ***І дуды вобземлю; Дый годзе? І скрыпкі ў торбу; Дуды ў мех і квіта.***

**Дело труба (табак)** — ***Справа дрэнь; Паганая (кепская) справа.***

Вельмі часта назоўнік **справа** (асабліва пры супастаўленні значэннем з назоўнікам **слова**) мае адценне строгасці, патрабавальнасці, што характэрна для ўсіх цытаваных у пачатку артыкула вытрымак. У першай з іх стылёвую і зместавую цэласнасць парушае слова **здзейсніў**, якое нясе стылістычную афарбоўку ўзнёсласці, патэтыкі і звужае праз гэта значэнне лексемы **справа**, бо здзейсніць можна толькі станоўчыя, добрыя намеры. (Злачынствы, подласць жа **робяць, чыняць, учыняюць**.) Пры гэтым губляе мэтазгоднасць і дзеяслоў **меркаваць**, звязаны з ацэнкай любога дзеяння, у тым ліку і ганебнага. Каб выправіць гэты сказ, дастаткова замест дадзенага сказа прывесці займеннік **яго (ягоны)**:

**Пра чалавека мы мяркуем па яго (ягоных) справах (учынках).**

Наступны сказ змяшчае толькі частку фразеалагізма **давесці справу да канца**, які неабходна ўзнаўляць поўнасцю, каб надаць выказванню зместавую завершанасць. Можна выкарыстаць лексічныя сінонімы **завяршыць, давяршыць, закончыць**: іх спалучэнні з назоўнікам **справы** ўспрымаюцца менш афіцыйна і стандартна. У мове ёсць іншыя сродкі, каб эмацыйна перадаць змест, напрыклад, згаданы раней дзеяслоў **здзейсніць**, яго сінонім **ажыццявіць**. Трэба, акрамя таго, замяніць недакладна ўжытае слова **нагадаць** 'напомніць каму-небудзь пра нешта, выклікаць успамін'. Трапна і выразна характарызуе вобраз Міхала, апісвае сітуацыю слова **прасіць**. Прывядзём магчымыя варыянты выпраўлення:

**...Міхал просіць брата давесці да канца (завяршыць, давяршыць, закончыць) распачатую справу.**

**...Міхал просіць брата здзейсніць (ажыццявіць) мару пра зямлю (задуму набыць зямлю).**

**...спраўдзіць яго імкненне мець уласную зямлю.**

І нарэшце ў трэцім сказе канструкцыя **на справе** 'на практыцы, па сутнасці' і слова **магчымасці** 'унутраныя сілы, рэсурсы, здольнасці' перадаюць змест прыблізна, не вельмі выразна, нясуць адзнакі канцылярскага выкладу. Да таго ж, сур'ёзнай стылістычнай памылкай з'яўляецца нематываваная выкарыстанне аднакарэнных слоў **могуць і магчымасць** (таўталогія). Прапануем такія заменнікі:

**...якія не могуць рэалізаваць (раскрыць, выявіць, праявіць) свае здольнасці.**

**...якія не маюць магчымасці праявіць сябе (раскрыць свае здольнасці).**

**...сярод сялян шмат таленавітых людзей, чые здольнасці не маюць нагоды раскрыцца.**

**...сярод сялян шмат здольных людзей, што не маюць нагоды выявіць сваю адметнасць (індывідуальнасць).**

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# Сцежка да згоды

*Слова — да згоды сцежка...*
**Пятрусь Макаль.**

Дакументы сведчаць пра высакароднасць, уніклівасць, міралюбнасць палачан у міждзяржаўных дачыненнях. Полацкае княства разам з тым рашуча абараняла свае правы, дбала пра сваіх падданых, на што ўказвае Грамата князя Івана Сямёнавіча лівонскаму магістру і рыжскім ратманам, напісаная 26 жніўня 1409 г. Нагодай яе ўзнікнення паслужыў канфлікт у Рызе — затрыманне полацкага струга (драўлянага рачнога судна) з таварам і гандлярамі. У адказ на самаўпраўства ды парушэнне дамовы Полацк адпаведным чынам паставіўся да рыжскіх купцоў, не выпускаючы іх з краіны, пакуль не будзе вернута захопленае.

Сур'ёзныя двухбаковыя перамовы прывялі да станоўчых вынікаў: было прынята рашэнне абмяняць затрыманых людзей і тавары, аднавіць гандаль. У грамаце падрабязна расказваецца пра спосабы вычарпання канфлікту, дэталёва пералічаны (аднак, без указання імёнаў, тавараў) суб'екты і аб'екты дамоўленасці. Пры гэтым у традыцыі афіцыйнага пісьменства ў пачатку дакумента выказваецца павага да адрасата паслання:

***Ото князя Ивана Семеновича полоцкого намѣсника и ото всих мужь полочан князю мештерюли ризкому и всим ратманом ризким поклон.***

***Што есте прислали к нам ратмана Федора, и онъ с нами поконцал*** [дамовіўся] ***от вас, што вам наших людеи всихъ отпустити к нам и со всем ихъ товаром, и того человека, што есте его казнили*** [пакаралі], ***а и тотъ струг с товаром, што есте поимали*** [узялі], ***и тую нашю челядь...***

***Ино которыи наши торговци восхотять на конехъ ехати, и коль к нам възьедуть, тогды мы вашь товаръ отпустим к вам...***

У цытаваным урыўку пераважаюць складаныя сінтаксічныя канструкцыі, праз якія больш дакладна перададзена логіка і сутнасць судачыненняў. Гранічна выразна сфармулявана праз канструкцыю з супастаўленнем гандлёвая палітыка дзяржавы:

***Хто паки хочеть торговати,— торгуй, а хто хочеть поехати,— поедь добро волно.***

Стыль дакумента вызначаюць строгасць і дыпламатычная стрыманасць, настойлівае падкрэсленне правамоцы дамоўленасці толькі пры канкрэтных, абазначаных у тэксце дзеяннях рыжан. Увесь змест граматы сведчыць пра жаданне не дапусціць іншых ускладненняў, пазбегнуць двучытання і незразумеласцяў, якія могуць паўплываць на лёс людзей.

Спрактыкаваным палітыкам, дасведчаным у тонкасцях моўнага выражэння, у псіхалогіі людзей, у значнасці ды асаблівасці моўнага ўздзеяння паўстае стваральнік дакумента, полацкі намеснік князь Іван Сямёнавіч. Ён, паводле сцвярджэння навукоўцаў, сярод шасці князёў Друцкіх, вядомых у пачатку XV ст., вызначаўся найбольшай палітычнай актыўнасцю. Падпісваючы ўсе дамовы княства з Ордэнам у перыяд з 1398 да 1432 года, гэты палітычны дзеяч сцежкай да згоды лічыў слова.

Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ.




Поўная вытанчанай духоўнасці, неспатольнай прагі прыгажосці паэтычная муза выдатных расійскіх паэтаў Барыса Пастарнака (1890—1960) і Восіпа Мандальштама (1891—1938).

### Барыс ПАСТАРНАК

* * *

Зноў люты. Ўзяць чарніл і плакаць!
Пра люты стаць пісаць наўзрыдзь,
Пакуль слаты грымлівай плаўкасць
Вясною чорнаю гарыць.

Здабыць пралётку. За шэсць грыўняў,
Праз провесць, колаў лік, праз лёс
Туды дастацца аж, дзе лівень
Шумнейшы ад чарніла й слёз.

Дзе, як апаленыя грушы,
Гракі ў азяблых дрэў з плячэй
Сарвуцца ў лужыну і зрушаць
Сухі адчай на дно вачэй.

Пад ім праталіны і ўзвейна
Падзёрты вецер на шматкі,
Як выпадкова, дык надзейна
Наўзрыдзь складаюцца радкі.

#### Хмель

Пад ракітай, абвітай плюшчом,
Сховы ад непагоды шукалі.
Нашы плечы акрыты плашчом,
Ты абвіта маімі рукамі.

Памыліўся. Кусты – хоць ты плач –
Не плюшчом перавіты, а хмелем.
Ну дык лепей давай гэты плашч
Пад сабой ушыркі мы рассцелем.

### Восіп МАНДАЛЬШТАМ

* * *

За грымучую доблесць наступных вякоў,
За высокае племя людзей
Я пазбавіўся чары ў застоллі бацькоў,
Гонару, весялосці, надзей.
Уссядае на плечы мне век-ваўкадаў,
Я не воўк па крыві, не вядзьмар:
Запіхай мяне лепей, як шапку ў рукаў
Футра стэпаў сібірскіх у сквар.

Каб не бачыць ні страху, ні бруду карчы,
Ні касцей у крывавай расе;
Каб блакітныя ззялі мне ўначы
У сваёй першабытнай красе.

Завядзі мяне ў ноч, дзе цячэ Енісей
І да зоркі сасна дастае,
Бо не воўк па крыві я і не ліхадзей
І мяне толькі роўны заб'е.

* * *

І Шуберт на вадзе, і Моцарт ля абрыва,
І Гётэ, свішчучы, дзе сцежка ўсмешкі ўе,
І Гамлет, думаючы крокамі пужліва,
Лічылі пульс юрмы і верылі ў яе.

А мо раней ад губ зрадзіўся шэпту клопат,
І лісце кленчыла бяздрэвавай зямлі,
І ўсе, каму мы прысвячаем вопыт,
Да вопыту ўжо рысы набылі.

***Пераклад з расійскай Рыгора Барадуліна.***

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

# Слоўнік сінонімаў

**ПРАВАДНІК** (асоба, якая суправаджае каго-н. і паказвае дарогу ў незнаёмай мясцовасці) *Генадзь і Міша аказаліся добрымі праваднікамі і сувязнымі між горадам і лесам* (Няхай), **ПРАВАЖАТЫ** разм. (той, хто суправаджае каго-н. з мэтай аховы, каб паказаць дарогу і пад.) *Праважаты наш начаваць не застаўся, як ні ўгаворвалі яго партызаны, ведаючы, што можна ў такую завіруху збіцца з дарогі ў полі* (Шамякін), **ПАВАДЫР** *Ісці было нядоўга, але такімі сцежкамі, што без павадыра загубіўся б тут на першай вярсце* (Якімовіч).

**Праваднік.** У якасці англійскіх адпаведнікаў можна згадаць два назоўнікі: **guide** і **escort**. Апошні ўжываецца значна радзей, чым guide, ён бліжэй да бел. **праважаты,** бо ў гэтым англ. назоўніку таксама часта прысутнічае значэнне "з мэтай аховы".

Абодва англ. адпаведнікі былі пазычаныя з французскай мовы (параўнайце бел. **гід, эскорт**).

**ПРАВАЛ** (поўная няўдача ў якой-н. справе, у ажыццяўленні чаго-н.) *Пасля перапынку вырашылі паўтарыць дзею. І нечакана — поўны правал* ("Полымя"), **КРАХ** узмацняльнае *Добра, што Макар не сведка краху яго [Максіма] мары* (Грамовіч), **КРУШЭННЕ** узмацн. *Што ж яе [Машу] кранула так? Радасць душэўнай блізасці? Ці крушэнне апошняй надзеі?* (Шамякін), **ФІЯСКА** узмацн. — *Ну, калі так, Змітро,— звяртаецца ён [Васіль] да мяне,— тады ні гу-гу... што я пацярпеў фіяска...* (Кавалёў).— *Параўнайце*: Г і б е л ь, 1. Н я ў д а ч а.

**Правал.** У англійшчыне знаходзім наступныя адпаведнікі: **failure, fiasco, flop, debacle, shambles**. Дамінантай з'яўляецца failure. Fiasco і debacle маюць узмацняльны сэнс. Разм. flop звычайна ўжываецца, калі гаворка ідзе пра правал п'есы, фільма або кнігі. Разм. shambles звычайна азначае правал з прычыны дрэннага планавання або арганізацыі.

У гэтым сінанімічным радзе толькі размоўныя flop і shambles з'яўляюцца англ. спрадвечнымі словамі. Failure і debacle прыйшлі з французскай мовы, а **fiasco** (самы малады з сінонімаў) быў пазычаны з італьянскай мовы ў XIX стагоддзі і спачатку ўжываўся толькі ў дачыненні да тэатра.



# Кіна-відэа-аўдыё-шоў-навіны ГІТ

## "SLADE": пішы, як чуецца




Пісаць ці не пісаць мяккі знак у беларускай мове там, дзе ён чуецца, пераводзіць у прыназоўніку "е" ў "я" перад націскам або не? Гэтыя пытанні яшчэ нядаўна былі ў нас у рангу дыскусійных на агульнадзяржаўным узроўні. Больш таго, спецыялісты, якія працуюць са словам, могуць прыгадаць у гэтым аспекце не толькі дыскусіі, але і рэпрэсіі. Журналісты памятаюць, як за адну толькі "філялёгію" маглі зняць цэлы артыкул, а беларускае напісанне ў беларускай газеце назвы беларускай сталіцы — Менск — сурочыла нават звальненне. Дый не толькі журналісты адчувалі філалагічны ўціск, але і поп-музыкі: беларускія словы "Бонда", "Магістрат", "Белы крук", "Дзіда" не падыходзілі да масавага ўжытку як назвы калектываў, і гурты, якія бралі такія назвы, рабілі гэта нелегальна.

А цікава: няўжо гэта выключна беларускі лёс — таптацца ў спрэчках ля роднай мовы: пісаць "насеньне" ці "насенне", "пытаньне" ці "пытанне"?

Аказваецца, і ў англічан былі падобныя прэцэдэнты. Скажам, гурт **"Slade"**, надзвычай папулярны ў 70-я гады і жывы сёння, так загуляў родную мову, што быў нават забаронены. Праўда, забаронены не ў іх, а ў нас.

Шмат навінак беларускага рынку вяртае аўтара гэтых радкоў у пару ягонага юнацтва. І сярод іх — перавыданне ўсіх альбомаў "Slade" і шэрагу зборных праграм, адну з якіх вы можаце пабачыць на здымку ўверсе. Цікавую англійскую мову дэманструюць адны назвы гітаў: "Look wot you dun" (а вы, пэўна, думалі "Look what you done"?); "Look at last nite" (і зноў жа чамусьці не "Look at last night"). У "Слэйда" ўсё не так: не "Love", а "Luv", не "happen", а "'appen", не "back home", а "bak 'ome". Такой бяды, што напісана нязвыкла, але ж гучыць цалкам нармалёва. Як чуецца, так і пішацца! І таму гурт "Слэйд" нават назваю аднаго свайго альбома запытаў у публікі: "Слэйд?" І без аніякай таўталогіі: "Slade" — "Slayed?" (гл. здымак унізе). Такім чынам, англічане задумваліся: "Слэйд" — "Забіты?" Цяпер і мы ведаем, што не: ніхто не забіваў лінгвістычных хуліганаў, а іхнія "няправільныя" тэксты распаўсюджваліся масавым тыражом. Англічане ўспрымалі гэта, пэўна, як філалагічныя шарады, што дэманструюць гнуткасць мовы, ейную жывасць.




Выжыла англійская мова, выжыў і гурт "Slade", які нядаўна даехаў нават і да Беларусі. Але тут іншая сітуацыя: тут ніякіх варыяцый — пад загадамі чынуш мова ўжо не гнецца ніяк. Мо мёртвая?

## Не пачуеш ад Краўца беларускага слаўца

Адразу засведчым, што не збіраемся накатвацца на зорку беларускай эстрады Сержука Краўца. У нас на прыкмеце заходні шоў-бізнес. І дзеля справядлівасці трэба сказаць, што Сяржук Кравец значна болей ужывае беларускую мову, чым ягоны цёзка, афраамерыканец Лёня Кравец — зорка амерыканскага рока. Але ж і ён мог бы аддаць належнае беларушчыне хоць бы ў той меры, як ягоны менскі калега, бо хоць гэта для яго не матчына мова (маці паходзіць з Афрыкі), дык затое ж бацькава. Бацька паходзіць якраз з Беларусі, прозвішча Кравец трансфармавалася ў Кравіц, бо ў англійскай мове літара "е" чытаецца як нашае "і". Адно, што можа крыху суцешыць нас, дык гэта тое, што **Лэні Кравіц** забыў не толькі бацькаву мову, але і матчыну — спявае выключна па-англійску. Як кажуць, з англамоўнімі жыць — па-англійску выць. Такі лёс чалавека без радзімы.

Тады хочацца запытаць разнастайных "хрыстафораў", "верасоў" ды іхніх "сяброў", тых, што называюцца беларускімі "песнярамі", што жывуць тут, на радзіме: балазе ж вам, седзячы на карку ў маці, шчодра перасыпаць матчыны словы чужацкім выццём?

## Цыгарэты, гарэлка і музыка... з Усходу

Днямі польскае радыё ў сваёй беларускай праграме падало цікавую музычную інфармацыю пад рубрыкай... **"Крымінальная хроніка"**. Гаворка ішла аб парушэннях мытнага заканадаўства на польска-беларускай мяжы.

Рэпарцёр падаваў статыстыку кантрабанды. Ну і як вы думаеце, якімі таварамі найбольш дакучаюць польскім мытнікам грамадзяне Рэспублікі Беларусь і падобных



"братніх" стварэнняў. На першым месцы — цыгарэты, на другім — гарэлка, на трэцім — ... кампакт-дыскі.

Усё гэта зусім не сведчыць, што нашыя цыгарэты і гарэлка — лепшыя ў свеце, бо не "Гродна" і "Нёман" туды вязуць: палякі любяць папаліць танных "Marlboro" і "Camel", не падазраючы нават, што іх вырабляюць на фабрыках Расійскай Федэрацыі. А вось што ж за дзівосы з кампакт-дыскамі: няўжо палякі не адчуваюць розніцы між сваімі выданнямі, растыражаванымі на заводах Нямеччыны і Аўстрыі, і тутэйшым самапалам.

Рэч, аказваецца, у бязмежнасці рэпертуару нелегальнай прадукцыі. Пакуль, скажам, польская фірма "Sound Pol" думае, ліцэнзію на які альбом брытанскага гурта **"Cure"** і якім тыражом ім закупіць, а потым спыняецца на лепшым — **"Wish"**, 1992 (здымак уверсе) і доўга прадае яго па 15 долараў, дык кантрабандысты ў садружнасці з піратамі закідваюць на Польшчу ўвесь "Cure" па 10 баксаў (на здымку ўнізе — зборная праграма выбраных сінглаў "Cure" — **"Staring At The Sea"**, 1986). Натуральна, пры затратах 2—3 долараў і, улічваючы сапраўдную кампактнасць тавару, можна не сумнявацца, што кампакт-дыск хутка абскача і цыгарэты, і гарэлку ў сферы нелегальнага бізнесу, калі, зразумела, наша дзяржава не абярэ ў прыярытэты прававыя нормы міжнароднага гандлю. Але паўстае лагічнае пытанне: чым мы будзем гандляваць са светам у галіне музыкі, калі напрыканцы XX стагоддзя Беларусь не выдала сама ніводнага кампакт-дыска не толькі замежных зорак, але нават і сваіх?




## Не вер вачам сваім



Беларусы не перакладаюць замежныя фільмы — нехта вырашыў, што карыстацца аб'едкамі з чужога стала больш выгадна. Вось толькі ці ведаем мы, што глядзім з гэтай прычыны? І справа не толькі ў тым, што хтосьці купляе танна абы-што ды прадае яго нам дорага. Рэч у тым, што купцы дазваляюць сабе шматлікія вольнасці (і не толькі ў сэнсе купюр), таму, чытаючы назвы фільмаў на афішах і ў тэлепраграмах, мы папросту не маем шанцу рабіць нейкія высновы. Назва фільма ў нашай рэчаіснасці амаль не мае ніякага значэння. І вось прыклады.

Разгортваем нядаўна тэлепраграму і чытаем: "З мяне досыць". Хтосьці падумае: "Нейкі зноў шэры невядомы фільмец. Ды ну яго!.." — і прапускае бліскучы трылер Джоэля Шумахера "Руйнаванне" з удзелам суперзоркі Галівуда **Майкла Дугласа** (на здымку).

Па горадзе зазяюць вялізныя афішы, якія рэкламуюць нейкіх "Непераўзыдзеных разбойнікаў". Мяркуючы па назве — таксама нешта без асаблівай фантазіі; карацей, пятага гатунку. Дый сапраўды, хто б мог падумаць, што так у нашым пракаце з падачы расійцаў назвалі супер-гіт амерыканскага кінасезона 1993 года — "Робін Гуд: мужчыны ў калготках". Так "удала" загрымавалі і жанр (вясёлая пародыя), і славутую работу славутага рэжысёра **Мэла Брукса**.

А памятаеце, напрыканцы 80-х пісалі аб здымках у Еўропе віртуозна задуманай крымінальнай камедыі з удзелам цэлага каскаду сусветных суперзорак кіно: Джэймс Бялушы і Арнэла Муці, Джон Кэндзі і Сыбіл Шэпард... Фільм меўся называцца **"Аднойчы злачынцы..."**

Меўся мо і сапраўды, але ці адбыўся сам выхад карціны? Бо хай сабе не купіў яго наш кінапракат, але ж і відэаманы беспаспяхова гарталі каталогі (складзеныя, зрэшты, таксама ў Маскве). Дык што ім можна параіць: гартайце-гартайце, ды не верце вачам сваім, бо бляклая назва "Забойства ў Монтэ-Карла" акурат і схавала беспадобны жарт рэжысёра Яўгена Леві, якога часам перакладаюць як Юджын Лівай.

І што застаецца? Заплюшчыць вочы, разявіць рот і чакаць, што пакладуць. Тое і жаваць. Хоць і абсурдна, але ў галіне культуры беларусы так і робяць. Таму і хварэюць.

## Данчык: вяртанне з архіваў



Хто такі Данчык, бадай, ведаюць усе. Спецыялісты звярнулі ўвагу на творчасць гэтага беларускага спевака з Нью-Йорка прыкладна з канца 70-х гадоў, калі ў ЗША распачалася ягоная дыскаграфія (альбомы "Беларусачка", 1977; "Я ад вас далёка", 1985; "Мы адной табе належым", 1989; "Равеснікі", 1991; "Мы яшчэ сустрэнемся", 1992). Ад 1989 года, калі адбыліся першыя гастролі па Беларусі, пэўна, тут не было газеты ці часопіса, якія пра гэты песенны цуд не пісалі. Амерыканскі часопіс "Star" тады заўважыў: "З першай паездкі на радзіму бацькоў гэты карэнны амерыканец вярнуўся суперзоркай". І сапраўды: імя Данчыка з таго часу было ўжо не толькі ў думках адмыслоўцаў, але на вуснах кожнага.

І ўсё ж ажыятаж вакол Данчыка неяк згас, прычыны чаго можна проста знайсці ў зніжэнні творчай актыўнасці. Зрэшты, хутчэй не агулам творчай, а толькі песеннай. Бо творчасць Данчыка-журналіста, хто ведае ягоны псеўданім, рэгулярна давала плён на хвалях беларускай праграмы радыё "Свабода". І акурат з Прагі, адкуль цяпер даходзіць голас "Свабоды", пачулі мы нядаўна Данчыка зноў. Тут ад нядаўняга часу гучыць цыкл перадачаў пад шматабяцальнай назвай **"Данчык вяртаецца"**: былі і беларускія песні, і творы на іспанскай ды іншых мовах.

Што ж, шмат да чаго з нядаўняга мінулага мы ўсе хацелі б вярнуцца: да таго, калі пасля шматгадовага застою пачаўся час адкрыццяў і пераменаў. Абы не было б гэта толькі вяртаннем у архівы.

## "Live concert" мёртвых зорак



Масква і Варшава — ці ёсць што паміж імі? Нам, пэўна, хочацца, каб адказ на такое пытанне быў станоўчым, але што казаць, калі найбольш аб'ектыўныя (бо палітычна незаангажаваныя) асобы — такія, як сусветна вядомыя суперзоркі поп-музыкі — нічога не заўважаюць там, дзе мы хочам бачыць Беларусь.

Пасля нядаўняга выступу ў Варшаве спявачка **Тына Тэрнэр** напрасткі пашыбавала... не, не ў Менск. Зразумела, у Маскву.

Лаўрэат шматлікіх радкоў з кнігі рэкордаў Гінеса, шоў-мэн свету нумар адзін спявак **Майкл Джэксан** пад час свайго сусветнага турнэ таксама нядаўна выступаў у Маскве. А потым накіраваўся ў заходнім накірунку. Здавалася, цяжка аб'ехаць Менск, але... наступным пунктам ягонага гастрольнага маршруту аказалася Варшава.

А хто ж ездзіць у Беларусь, акрамя Клуні Ветравай і Тані Буланавай?

З заходніх суперзорак можам прыгадаць толькі "Sweet", "Slade", "Dooley family" ды вось нядаўна Chris de Bourge. Заўважаецe: суперзоркі прыязджаюць да нас амаль выключна... пасля сваёй смерці. Пасля таго, як на Захадзе згаслі апошнія водбліскі апладысментаў у іхні адрас, а самі калектывы разышліся па сваіх асобных праектах. І толькі які-небудзь тэхнік мікшэрскага пульта або грузчык апаратуры славутага калектыву набірае піянераў і школьнікаў на вольныя месцы і, скарыстаўшы атрыманую ў спадчыну славутую назву, рушыць у такія краіны, як Беларусь, паказваць "жыўцом" стары знаёмы рэпертуар.

Жывы канцэрт памерлай зоркі для жывых? Наўрад! Але чаму нас гэтак бачаць слупы сусветнага шоў-бізнесу? Ці не задумваліся?

**Старонку "Гіт" прэзентуе шаноўным чытачам журналіст, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Кинонеделя Минска" Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.
Адказны сакратар — Уладзімір Аніскові́ч.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 1231

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2705 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 13.11.1996 г. у 15 гадзін.